ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXII, № 180 Нью Ёрк April — Красавік 1972 New York Vol. XXII, № 180

**„Нічога няма больш прыгожага ды больш велічнага, як нараджэньне новай ідэі, зьместам якое ёсьць вызваленьне ад палітычнай, гаспадарскай і духовай няволі свайго народу. У гісторыі Беларускага Народу гэткай вялікай ды прыгожай ідэяй ёсьць ідэя Акту 25 Сакавіка 1918 году — Акту Абвешчаньня Беларускай Вольнай і Незалежнай Дэмакратычнай Рэспублікай.**

**25-ы Сакавік — гэта найпрыгажэйшая кветка, што ўзрасла на нашай зямлі, а кволыя лісточкі яе вечна будуць жывымі, бо Народ палівае яе сьлязамі сваімі.**

**Акт 25 Сакавіка ёсьць найвышэйшай рэальнасьцяй усяго Беларускага Народу. Імкненьне да свабоды ніколі не старэе ‚ніколі ня траціць на сіле ды на сваёй прыцягаючай моцы".**

**Прэзыдэнт БНР Пётр Крэчэўскі**

**З прамовы на сьвяткаваньні 6-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Празе Чэскай на Вінаградах у 1924 годзе** (паводле зробленых тады-ж зацемак прысутнага на сьвяткаваньні інж. М. Гарошкі).

## 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ



Прамаўляе Кангрэсмэн Л. Вулф

Як штагоду, сакавіковае сьвяткаваньне ладзілі галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (старш. др. Р. Гарошка), акруговая ўправа БАЗА (старш. мгр М. Кунцэвіч) і ўправа БАЗА ў Нью Джэрзы (старш. сп. Т. Сурпун). Дзейны ўдзел у сьвяткаваньні, як заўсёды, узялі сябры Беларуска-Амэрыканскае Маладзежнае Арганізацыі (старш. сп-чна Р. Станкевіч).

У сьвяткаваньні ўзяло ўдзел беларускае грамадзтва із штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзы й Канэтыкат, а таксама прадстаўнікі ад Амэрыканцаў, Украінцаў, Баўгараў, Казакоў, Палякоў, Кітайцаў ды некаторых міжнародных арганізацыяў (гл. „Прамовы гасьцей").

Багаслужбу й малебен адслужыў а. Карп у катэдральным саборы БАПЦ у Брукліне. Акадэмія адбылася, як і папярэднімі гадамі, у гатэлі „Білтмор" у Мангатэне.

### Акадэмія

Урачысты сход адчыніў мгр. М. Кунцэвіч. Пасьля амэрыканскага гімну (солё сп-ні Л. Маркоўскае, пры піяніне сп-ня Э. Зубковіч) а. Карп і прысутныя адсьпявалі супольную малітву („Отче наш"). Айцец Карп блаславіў сход.

Др. Расьціслаў Гарошка, старшыня галоўнае ўправы БАЗА, у сваім выступленьні паангельску даў кароткі агляд гістарычных падзеяў, што прывялі да абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а таксама сучаснага палітычнага палажэньня на Беларусі, змаганьня беларускага народу за права быць гаспадарам свае зямлі й свайго культурнага разьвіцьця. Прамоўца падчыркнуў вялікую ролю беларускае палітычнае эміграцыі ў змаганьні Беларусаў за сваю дзяржаўную незалежнасьць.

Старшыня акадэміі др. Янка Запруднік прадставіў Кангрэсмэна Лэстэра Вулфа із штату Нью Ёрк. Кангрэсмэн Вулф праводзіць вельмі шырокую дзейнасьць як у Кангрэсе, гэтак і вонках яго. Ён вядзе, між іншага, тэлевізійную праграму „Пытайцеся Кангрэс", што перадаецца кажнае суботы а 10:30 гадз. ураньні на адзінаццатым канале („Даблью-Пі-Ай-Экс"). У выбарную акругу Кангрэсмэна Вулфа, паінфармаваў др. Запруднік, уваходзяць раёны Флашынгу, Джамэйкі, Квінс-Віледжу й іншыя, у якіх жыве цімала Беларусаў. Кангрэсмэн Вулф сказаў, што ён гатовы паставіць на сваёй тэлевізійнай праграме й пытаньне пра Беларусь, калі яму гэткае будзе прыслана.

### Прамова Кангрэсмэна Л. Вулфа

У кароткай, але зьмястоўнай прамове, Кангрэсмэн Вулф нагадаў аўдыторыі слаўную мінуўшчыну Беларусі ў пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага, калі беларускі народ быў гаспадаром свае долі, беларуская мова дзяржаўнаю, беларуская навука й культура багатымі. Расейскі, а цяпер расейска-савецкі каляніялізм зьмяніў усё гэта. Узровень жыцьця ў сучаснай Беларусі, сказаў Кангрэсмэн Вулф, у выніку эксплаатацыі й эканамічнага рабаваньня краю, ніжэйшы, чымся ў партугальскіх калёніях у Афрыцы. Кангрэсмэн Вулф адзначыў таксама ў сваёй прамове вялікую ролю перахоўваньня між Беларусамі Амэрыкі культурных традыцыяў і ідэалаў свабоды, увасабленьнем якіх была Беларуская Народная Рэспубліка.

### Прамова праф. Ант. Адамовіча

Галоўным прамоўцам на акадэміі быў праф. Антон Адамовіч. Сваё выступленьне ён пачаў, прыгадаўшы словы царскага міністра Валуева ў 1860-х гадох пра ўкраінскую мову — „не было, нет і быть не может". Пра Беларусь цар Мікалай I-шы сказаў падобнае яшчэ ў 1840 годзе, калі забараніў быў ужываць тэрмін „Беларусь", загадаўшы называць беларускія губэрні паймення. Але ў канцы 19-га стагодзьдзя Францішак Багушэвіч заявіў сваім творствам, што Беларусь **была** й што яна **ёсьць**. Пра тое, што Беларусь **ёсьць** даводзілі сваёй дзейнасьцяй наступнікі Багушэвіча. Усебеларускі-ж Кангрэс 1917 году й Рада Беларускае Народнае Рэспублікі сказалі, якой формы яна **павінна быць**.

Цяпер савецкая народагубная палітыка скіраваная йзноў на тое, каб давесьці, што Беларусі „не было, нет й быть не может". Зьмест Беларускае **Народнае** Рэспублікі падменены „савецкім сацыялістычным". Беларуская мова выціскаецца з жыцьця й падменьваецца „савецкай", г. зн. расейскай мовай.

Беларускае вызвольнае змаганьне, сказаў прамоўца, вядзецца цяпер за беларускую дзяржаву формаю й зьместам, за Беларускую Народную Рэспубліку, за тое, што Беларусь была, ёсьць і будзе.

### Прамовы гасьцей

З прывітаньнямі на сьвяце выступалі: др. Валянтына Калынык — старш. арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеным Народам; рэдактар газэты „Чайна Таймс" і прадстаўнік кітайскае грамады ў Нью Ёрку сп. Шын Тай Ліянг; сп. Альфрэд Корн малодшы — старш. Прэзыдэнцкіх Клюбаў (Культурнае) Спадчыны; сп. Алексіс Чэнкелі — старш. Арганізацыі Задзіночанага Каўказу; сп. Барыс Жэпэцкі — былы пасол на Беларусі Украінскае Народнае Рэспублікі; др. Васіль Глазкоў — старш. Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва; др. К. Койчаў — старш. Баўгарскае Нацыянальнае Рады; сп. Гавіў Шыбэр — ад імя Антыкамуністычнага Інтэрнацыяналу; др. Пітэр Ч'янг.

Сярод гасьцей была таксама дэлегацыя ад Баўгарскага Нацыянальнага Фронту ў складзе сп. сп. Л. Іванова (сакр.), Дзімітра Колева й Крыста Блізнакава; сп-ня Сынтыя Гайлер — старш. арганізацыі Прыяцеляў Тыбэту; пастар Гарольд Энслі — старш. Амэрыканскае Кітайскае Місіі.

Прамоўцы, выказваючы салідарнасьць з асьпірацыямі беларускага народу да незалежнага жыцьця й адзначаючы важнасьць міжнароднага супрацоўніцтва ў змаганьні з камуністычнымі панявольнікамі, зьвярнулі таксама ў сваіх выступленьнях увагу на дзейны ўдзел моладзі ў беларускім сьвеце Незалежнасьці — добрае сьветчаньне ідэйнае пераемнасьці пакаленьняў між Беларусаў Амэрыкі.

### Пісьмовыя вітаньні

Прывітаньні із Сьвятам Незалежнасьці й пажаданьні ўдачы прыслалі: ад імя Мэра гораду Нью Ёрк Джона Лындзы, губэрнатары штату Канэтыкат Томас Мэскіл і штату Мэйн Кэнэт М. Кэртыс, сэнатары Гарысан А. Уільямс малодшы (Нью Джэрзы), Джэй. Глен Біл малодшы (Мэрылэнд), Уільям Сі. Кокрэйн ад імя сэнатара Б. Эвэрэта Джордана (Паўночная Караліна), Фрэд Р. Гарыс (Оклягома), кангрэсмэны Джон Даблью. Уайдлер (Нью Ёрк), Сэймур Гальпэрн (Нью Ёрк), Джон М. Мэрфі (Нью Ёрк), Боб Сайкс (Флярыда), Бэнджамін С. Розэнтол (Нью Ёрк), Эдвард І. Коч (Нью Ёрк); Генэральны Консул Эстонскага прадстаўніцтва ў Нью Ёрку Эрнст Яаксан, дырэктар Этнічных Групаў Нацыянальнага Камітэту Рэспубліканскае партыі Ляшлё Пастар.

Былі атрыманыя таксама прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў: Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія) (старш. сп. М. Скабей), Брадфардзкага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі (старш. А. Калько, сакр. Я. Калбаса), Згуртаваньня Беларусаў Канады (старш. др. Р. Жук-Грышкевіч), Беларускага Кардынацыйнага Камітэту Канады (др. Р. Жук-Грышкевіч), аддзелаў БАЗА ў Нью Джэрзы (старш. Т. Сурпун, сакр. В. Стома), Мішыгэн (старш. Ю. Мазура), Беларускага Згуртаваньня ў шт. Іліной (старш. А. Бяленіс).

### Праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці

Сп. Юрка Азарка, студэнт Інжынернага каледжу Ратгерскага ўнівэрсытэту й старшыня Беларуска-Амэрыканскае Маладзежнае Арганізацыі ў штаце Нью Джэрзы паведаміў аб праклямацыях Дня Беларускае Незалежнасьці, абвешчаных губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзы, Канэтыкат, Агаё, Мішыгэн, Іліной, а таксама Мэрам гораду Нью Брансўік. Зьместам гэтыя праклямацыі меншбольш аднолькавыя. Дзеля прыкладу вось тэкст праклямацыі Дня Беларускае Незалежнасьці ў штаце Нью Джэрзы:

STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

*PROCLAMATION*

WHEREAS, on the 25th of March, 1918, Byelorussia was proclaimed by its democratically elected National Assembly as a free and independent republic; and

WHEREAS, despite the fact that this republic fell under the conquest by force of arms of the Russian Communists, the resistance of the Byelorussian people to this regime never ceased and millions of Byelorussian patriots are still hoping to regain national independence and democracy for their homeland; and

(Заканчэньне на 2 бачыне)

## УГОДКІ 25 САКАВІКА У ЧЫКАГА



**Зьлева направа: В. Панулэвіч, В. Рамук, Калтуноўскі, Бэкер, Бурмістр Рычард Дэйлі, А. Беленіс, М. Жызьнеўскі**

54-ыя ўгодкі Акту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі былі адзначаны ў Чыкага шмат якімі здарэньнямі. Гэтак 14 сакавіка Бурмістр Чыкага Рычард Дэйлі запрасіў да сябе ў гарадзкую ўправу беларускую дэлегацыю (глядзі фота) і ўрачыста ўручыў ёй праклямацыю, якой абвесьціў дзень 25 сакавіка сёлета Беларускім Нацыянальным Днём у Чыкаскай мэтраполіі. У праклямацыі казалася пра абвешчаньне 25 сакавіка 1918 году Беларусі вольнай і незалежнай дзяржавай, пра змаганьне беларускага народу за сваю дзяржаўную незалежнасьць супраць чырвонае Масквы ды пра амэрыканскую спагаду змагаром Беларусі. У сваёй прамове да беларускай дэлегацыі ад сябе ён заахвочваў Беларусаў быць нацыянальна стойкімі ў змаганьні за свабоду свайго народу, больш актыўна фармаваць прыязныя дачыненьні ў Амэрыцы да беларускай справы галоўна шляхам публікацый ў ангельскай мове матар'ялаў для інфармаваньня амэрыканскага чытача пра гісторыю, культуру й змаганьне беларускага народу, а таксама прыймаць актыўны ўдзел у амэрыканскім палітычным жыцьці ды ставіць перад амэрыканскімі ўрадавымі ўстановамі свае нацыянальныя патрабаваньні.

Гэтаксама і Губарнатар штату Іліной Рычард Агілві выдаў праклямацыю, абвяшчаючы ў межах штату дзень 25 сакавіка Беларускім Нацыянальным Днём у гонар слаўнае гістарычнае падзеі й змаганьня беларускага народу за свабоду й дзяржаўную незалежнасьць.

17 сакавіка прыляцеў зь Нью Ёрку ў Чыкага Д-р Ст. Станкевіч і вечарам таго-ж дня выступіў у чыкаскім радыё на хвалі ВЭДС 1240 на запросіны сп. Самбірскага й сп. Мікодыма Жызьнеўскага, які вядзе беларускія перадачы пад назовам „Радыё Нёман". У кароткай прамове Д-р Ст. Станкевіч падчыркнуў гістарычную ролю беларускіх нацыянальных угодкаў. Украінец сп. Самбірскі, пры гэтай нагодзе, цёпла вітаў Беларусаў Чыкага з нагоды 54-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка.

19 сакавіка ў радыягадзіне сп. Паўлікоўскага, прызначанай для старой беларускай эміграцыі, быў перададзены заклік ушанаваць беларускае нацыянальнае сьвята ды прыняць удзел у грамадзкіх урачыстасьцях 19 і 26 сакавіка.

19 сакавіка у нядзелю перш адбылася Божая Служба ў Беларускай Царкве Хрыста Спаса пры Фулертон вуліцы за беларускі народ і ягоных змагароў за вызваленьне. Папаўдні гэнага-ж дня зышліся Беларусы Чыкага на ўрачысты Сход у гонар 54-ых угодкаў Акту Сакавіка ў залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру. Тут трэба асабліва адзначыць, што сёлета павеяў спрыяльны вецер у нашай нацыянальна-вызвольнай акцыі. Вялікі працэнт аўдыторыі запоўнілі нашыя суродзічы зь беларускіх арганізацыяў, якія раней не заўсёды лучыліся з намі. Ці-ж гэта не падзея? Яшчэ якая! У наступную нядзелю 26 сакавіка на іхным сьвяткаваньні нашыя арганізацыі выканоўць свой узаемны братэрскі абавязак.

Сход адбыўся ў узвышанай патрыятычнай атмасфэры. Яго адчыніў малітвай патрыятычнага зьместу заслужаны ў беларускім жыцьці а. Уладзімер Тарасэвіч. Вітальныя словы сказаў старшыня Каардынацыйнага Сьвяткавальнага Камітэту В. Пануцэвіч. Д-р В. Рамук коратка паінфармаваў у ангельскай мове пра беларускае нацыянальнае сьвята ды прадставіў праграму сьвяткаваньня. Далей добра кіраваў праграмай майстра ўрачыстасьці Мікодым Жызьнеўскі. Былі прачытаныя праклямацыі Бурмістра гораду й Губарнатара штату. Выступалі прадстаўнікі ад іншых нацыянальнасьцяў, што віталі нас з нацыянальным сьвятам ды заклікалі да супольнага змаганьня супроць супольнай панявольніцы Масквы, падчыркваючы, што 54-ы гады таму чырвоная Масква змагла зламаць паадзіночку ўсе нерасейскія народы, што паўсталі да вольнага й незалежнага жыцьця. Адсюль навука, падчырквалі прамоўцы, што на цяперашнім этапе змаганьня ўсе паняволеныя народы мусяць злучыцца пад супольным лёзунгам: супольнае змаганьне з супольным ворагам пры падтрыманьні вольных народаў дасьць свабоду ўсім паняволеным народам!

Галоўны ўгодкавы даклад меў Д-р Ст. Станкевіч. Ён закрануў шмат якія аспэкты нашага вызвольнага змаганьня, шырэй спыніўшыся на цяперашнім наступе Масквы на Беларусь шляхам дэтальна падрыхтаванай і плянава праводжанай русыфікацыі новымі мэтадамі. Прадставіў таксама дэтальна паступовае нарастаньне беларускага нацыянальнага бунту, актыўнага й пасыўнага супраціву русыфікацыі маладзейшага й маладога пакаленьня ў БССР. Ён зазначыў, што Ленін, перайманьнік царскае спадчыны, быў гэткім-жа зацятым ворагам беларускага народу, як цары, Мураўёў і ўся расейская чорная сотня. І толькі ў вабліччы нацыянальнага ўздыму беларускага народу й тварэньня ім свае собскае дзяржаўнасьці быў змушаны згадзіцца на абвешчаньне БССР. Але і ў гэтай зьмене курсу да Беларусаў бальшавікі рабілі ўсякія магчымыя кручэльствы, абвяшчаючы БССР у этнаграфічных межах, а зводзячы яе да 5-ёх паветаў б. Менскай губэрні. Але няспыннае змаганьне беларускага народу змусіла Маскву павялічыць БССР як усходнімі землямі ў межах Андрусаўскага перамір'я ў 1667 годзе ды Заходняй Беларусяй у 1939 годзе.

Дакладчык зазначыў, што і ў паваенным часе найцяжэйшы вынішчальны наступ Масквы канцэнтруецца на БССР. Ці народ наш зможа самаабараніцца? — ставіў пытаньне дакладчык. Ён сьцьвердзіў, што ў вадказ на шалёную русыфікацыю ўсьцяж павялічваецца нацыянальны супраціў галоўна маладога й наймаладшага пакаленьня, паглыбляецца нацыянальны патрыятызм і нацыянальная самаабарона. У гэтым найбольшая зарука, што Маскве ніяк ня ўдасца праглынуць беларускага народу й спыніць ягонага вызвольнага імкненьня.

Сходам аднагалосна была прынятая Рэзалюцыя, у якой беларускае грамадзтва Чыкага дамагаецца ад ураду ЗША: а) устанаўленьня дыпляматычных дачыненьняў з БССР і адчыненьня консуляту ЗША ў сталіцы БССР Менску; б) адхіленьня праплановы сэнатара Фульбрайта пра ліквідацыю радыястанцыі „Свабода"; в) адхіленьня праплановы некаторых кангрэсмэнаў пра ліквідацыю сябровства статусу БССР у Задзіночаных Нацыях, ды патрабаваньня, каб БССР у Задзіночаных Нацыях была годнай гэтага сябровства; г) увядзеньня беларускае мовы ў радыяперадачах Голасу Амэрыкі.

У мастацкай частцы ўрачыстасьці былі выступленьні нашых сьпявачак Надзеі Градэ-Куліковіч, Веры Рамук і нашых слаўных музыкаў Вільяма й Гэнрыка Янчэўскіх. Акампаньяваў да сьпеву сп. Ст. Боцек.

Пасьля Сходу адбыўся супольны абед і нарада беларускага актыву з Д-рам Ст. Станкевічам у справе актуальных палітычных пытаньняў і нашага нацыянальнага жыцьця.

**В. Карасэвіч**

 



BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
Subscription $ 6.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# САКАВІКОВЫЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў АЎСТРАЛІІ

## I. У МЭЛЬБУРНЕ

Сьвяткаваньне 54-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Мэльбурне ў нядзелю 26 сакавіка. Пасьля звычайнае Багаслужбы ў БАПЦаркве а. А. Кулакоўскі адслужыў урачысты малебен за Беларускі Народ, закончаны рэлігійным гімнам „Магутны Божа", ды сказаў прынагодную казань.

Урачыстая Акадэмія адбылася ў сваім Беларускім Доме. Ажыўлены рух у ім пачаўся ўжо каля 2-ой гадзіны папаўдні. Нацыянальная вопратка дзяцей і шмат якіх дарослых, прыгожае восенскае надвор'е, зелень і кветкі на прэзыдыяльным стале й на сцэне стварылі мілы сьвяточны настрой. Тым, што ўваходзілі ў залю, сп-ня Яўневіч прышпіляла бел-чырвона-белыя стужачкі. Заля хутка запаўнялася.

А гадзіне 3-яй мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча прапяяў аўстралійскі гімн. Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту М. С., вітаючы прысутных гасьцей Украінцаў і сваіх Беларусаў, уступным словам адчыніў Акадэмію й прачытаў прысланыя прывітаньні: ад ККБК з Канады, БАЗА із ЗША, Беларускага Вызвольнага Фронту й іншыя. Тады быў прачытаны дажэйшы рэфэрат, прысьвечаны 54-ым угодкам Акту 25 Сакавіка, ды хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць змагароў за Беларусь.

На мастацкую частку ўрачыстасьці злажыліся: прачытаньне верша Ніла Гілевіча „Край мой — Беларускі Край", нацыянальная песьня „Не пагаснуць зоркі ў небе" ды народная песьня „Вячэрняя зара" ў выкананьні згаданага ўжо мяшанага хору. Далей былі дэклямаваныя вершы Аўгені Янішчыц „Край мой сіні" — Анютай Корбут, Уладзімера Караткевіча „Слава беларускай бярозе" й Паўла Марціновіча „Родная песьня" — Верай Шэйпак, Міхася Руткоўскага „З добрым раньнем" — Анютай Корбут. Мяшаны хор выканаў народныя песьні „Вяне рута" й „Дзед і баба", пасьля чаго дзеці беларускай школкі пад кіраўніцтвам сп-ні Э. Яцкевіч прапяялі гімн „Магутны Божа". Узноў дэклямаваліся вершы: В. Швэда „Родная мова" — Нінай Грыцук, „Беларус" — Піліпам Грыцуком і А. Будзіча „Ідэя" — Алай Корбут. Песьня-абразок „Купалінка" ў выкананьні дзяўчат, песьня „Люблю наш край" у выкананьні аднэй пары — А. Корбут і Н. Грыцук пры акампаньяманьце на акардэоне Юркі Нікана.

Нацыянальным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ды падзякаю старшыні Бел. Нацыянальнага Камітэту прысутным за ўдзел у сьвяткаваньні ды заклікам да далейшае працы на карысьць беларускай справы была закончаная ўрачыстасьць.

Прэсавы прадстаўнік, як заўсёды, на стале пры ўваходзе параскладаў беларускія кнігі й газэты, а таксама кружэлкі, сьвежа атрыманыя з Клюбу „Пагоня" ў Канадзе.

**М. Н.**

## 2. У СЫДНЭІ

Беларусы Сыднэю (Аўстралія) ўрачыста адсьвяткавалі сёлета 25 сакавіка 54-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў залі Украінскага Дому ў Лідкомб. Дзьве гадзіны перад сьвяткавальным Сходам група сяброў, што належаць да Расейскай Праваслаўнай Зарубежнай Царквы (БАПЦ ня мае ў Сыднэі свайго сьвятара й парахвіі) шчыра памаліліся за Беларусь з а. Вэньямінам.

Урачысты Сход адбыўся за прыгожа засланымі сталамі, які адчыніў цёплым уступным словам старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі інж. М. Каранеўскі. Рэфэрат пра падзеі 25 Сакавіка прачытаў сп. М. Зуй, а карэфэрат — сп. А. Булаўскі, канчаючы яго гарачым патрыятычным вершам. Пасьля прывітаньняў ад розных арганізацыяў Зуевы дзеткі прадэклямавалі два вершыкі. Прысутны на сьвяткаваньні старшыня Украінскіх Арганізацыяў у Новай Паўдзённай Валіі сп. М. Сьвідэрскі прывітаў Беларусаў ад імя сваіх суродзічаў.

На заканчэньне афіцыйнай часткі Д-р Я. Малецкі зрабіў кароткі агляд падзеяў у сьвеце й на Беларусі. У цёплых словах ён успомніў сябру заснавальніка Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі Аляксандру Пашкоўскага, які з жонкай і трыма дзяцьмі вярнуўся быў на бацькаўшчыну й быў расстрэлены ў Вялейцы за антысавецкую брашуру, выдадзеную ў 1943 годзе, аб сваім гаротным жыцьці ў часе калектывізацыі. Нацыянальным беларускім гімнам была закончаная афіцыйная частка ўрачыстасьці.

Пасьля гэтага адбыўся пачастунак, пераплятаны сьпевамі й дэклямацыямі, калі, як і належыцца, верхаводзіў сыднэйскі паэта Я. Макарэвіч. Ягоны верш пра варажбітку выклікаў жывое зацікаўленьне й сабраў гучныя воплескі. Сп. Старшыня яшчэ не пасьпеў падзякаваць гасьцям за прысутнасьць на Сходзе, як, пасьля эміграцкай песьні „Васількоў", грымнула беларуская марсэльеза „Ад веку мы спалі". Усе із шчырым гумарам, бо ўжо даўным-даўно не галодныя й не абдзёртыя, як падсавецкія „пралетары", а езьдзяць у сваіх аўтах, але голасна пяялі: „Бяз хлеба, бяз грошай працуй!" Прысутныя з узвышаным пачуцьцём і паважнай думкай вярталіся дамоў: Як гэта добра, што ўсе мы разам!

**Я. Лаўрыновіч**

## 3. У АДЭЛЯЙДЗЕ

Сьвяткаваньне 54-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі адбылося ў Адэляйдзе (Паўдзённая Аўстралія) ў нядзелю 26 сакавіка. Упяршыню за дваццаць гадоў адзначалі Беларусы Адэляйды сваё нацыянальнае сьвята на сьвежым паветры ў Нацыянальным Парку. Гэта цудоўнае й прыгожае месца гораду, якім карыстаюцца многія турысты. А пагода выпала надзвычайна добрая й сонечная, як быццам прырода пайшла насустрач Беларусам. Усе гэтыя акалічнасьці далі магчымасьць амаль усім тутэйшым Беларусам сабрацца на сваё сьвята.

І вось разгарнуўся й заблішчэў бел-чырвона-белы сьцяг на адным з дрэваў. Настаяцель нашай Парахвіі а. Васіль адправіў урачысты Малебен за Бацькаўшчыну й Беларускі Народ ды прывітаў прысутных зь вялікім сьвятам. Сп. П. Трысмакоў у кароткай прамове зьвярнуў увагу на тую бяспрыкладную ману, што камуністыя распаўсюджваюць праз друк і радыё ды хаваюць ад Беларусаў гістарычную падзею — Усебеларускі Кангрэс 1917 году, гэты вялікі ўсенародны сход, што паклаў падмурак нашай дзяржаўнасьці. Раскрываць гэтую ману — абавязак кажнага Беларуса.

Пасьля афіцыйнае часткі ўдзельнікі сьвяткаваньня групамі расьселіся пад прыгожымі дрэвамі й пачалася бяседа на сьвежым паветры. Падмацаваўшыся й трохі адпачыўшы, распачалі розныя гульні. Першымі былі дзеці, а тады й дарослыя. Сьмеху й весялосьці было ўдосталь. Пад канец сабралася група сьпевакоў, якія паказвалі сваё майстроўства. Паліліся адна за аднэй беларускія песьні, а рэха гучна адбівалася па парку. Гулялі й весяліліся аж да 6-ае гадзіны вечара. Разьяжджаючыся дамоў, усе дзякавалі сп. Я. Рольсану за ягоную ідэю адсьвяткаваць Дзень Незалежнасьці ў Нацыянальным Парку. Трэба шчыра падзякаваць сп. сп. Садоўскаму, Бурносу, Сітніку й іншым за ўмелую арганізацыю спартовых гульняў.

**Прысутны**

# САКАВІКОВАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Кліўлендзкі Аддзел БАЗА арганізаваў сьвяткаваньне 54-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 26 сакавіка. Перад сьвяткаваньнем газэта „Кліўлэнд Прэс" зьмясьціла артыкул пра ўгодкі беларускае незалежнасьці. У пятніцу 24 сакавіка старшыня Аддзелу БАЗА Ул. Дунец, сакратарка Іра Каляда-Сьмірнова й сп. Я. Лукашэвіч наведалі Гарадзкую Ўправу, дзе падчас канфэрэнцыі прэсавых рэпартэраў бурмістр Ралф Пэрк даручыў беларускай дэлегацыі праклямацыю, абвяшчаючы дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці ў горадзе Кліўленд, і сказаў кароткую прамову. У сыботу 25 сакавіка беларуская дэлегацыя ў складзе Я. Раковіча, А. Кабяка, Я. Лукашэвіча, К. Калошы й Ул. Дунца афіцыйна рэпрэзэнтавала Беларусаў у цэнтры гораду, дзе адбылося падняцьце беларускага бел-чырвона-белага сьцягу.

У нядзелю 26 сакавіка, пасьля звычайнае Літургіі, Высокапраасьвяшчэнейшы Архіяпіскап Андрэй адслужыў урачысты малебен за вызваленьне Беларусі. Былі вынесеныя на сярэдзіну царквы беларускі й амэрыканскі сьцягі. Хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага пяяў вельмі прыгожа й урачыста.

А 5-ай гадзіне папаўдні ў перапоўненай царкоўнай залі распачаўся ўрачысты Сход. Старшыня Аддзелу БАЗА Ул. Дунец прывітаў гасьцей і ўсіх прысутных, а салістка Іра Каляда-Сьмірнова прапяяла амэрыканскі нацыянальны гімн. Кіраўнічка Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Галіна Кананчук прачытала праклямацыю бурмістра Кліўленду й праклямацыю губэрнатара штату Огаё пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Беларусі ў горадзе й штаце. Яна-ж прачытала й інфармацыйны даклад у ангельскай мове. Даклад у беларускай мове прачытаў сп. К. Кіслы. Рэзалюцыю, што была прынятая Сходам, прачытаў Уладзімер Дунец малодшы.

Зь цікавай прамовай выступіў бурмістр Кліўленду Ралф Пэрк. Тады выступаў з вітальнай прамовай прадстаўнік сэнатара Р. Тафта сп. Т. Шмагала. Ад сэнатара В. Б. Сэксбі вітаў сп. Р. Кудукас. Паколькі кангрэсмэн Дж. Стэнгон, што меўся прамаўляць асабіста, быў змушаны раптоўна паехаць у шпіталь, ад ягонага імя выступаў зь вітальнай прамовай ведамы дзеяч М. Сьвіні. З прыязнай прамовай выступіў Акруговы кантралёр Джордж Войновіч. Пісьмовыя прывітаньні прыслалі кангрэсмэны В. Стэнгон, В. Мічэль і Ч. Ванік.

Пасьля гэтага сп. Я. Раковіч прадставіў афіцыйных гасьцей ад Украінцаў, Славакаў, Харватаў, Казакаў, Немцаў, Летувісаў і іншых нацыянальнасьцяў. Таксама былі прадстаўленыя й свае беларускія старшыні арганізацыяў.

У мастацкай частцы пад музычным кіраўніцтвам сп. К. Кіслага выступала салістка Іра Каляда-Сьмірнова. Верш Канстанцыі Буйлы „Люблю наш край" у перакладзе на ангельскую мову Веры Рыч прадэклямаваў Алесь Дунец. Жаноцкі ансамбль пад кіраўніцтвам К. Кіслага выканаў тры песьні. Акампаньявала на акардыёне Оля Дубаневіч.

Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну. Для гасьцей быў наладжаны пачастунак, падчас якога вяліся гутаркі на нацыянальныя тэмы. Усім, хто спрычыніўся да гэтак удала зладжанага сьвяткаваньня, ад усяго грамадзтва належыцца шчырая заслужаная падзяка.

**Ул. Д.**

# СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў БРАДФАРДЗЕ

25 сакавіка сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Дому ў Брадфардзе адбыўся ўрачысты Сход, прысьвечаны 54-ым угодкам абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сход адчыніў і прывітаў прысутных старшыня Ўправы Аддзелу ЗБВБ сп. Аляксандар Калько ды папрасіў настаяцеля БАПЦ у Вялікабрытаніі прат. а. Янку Абабурку сказаць малітву за палеглых Герояў Беларусі ў змаганьні за ейнае вызваленьне. Тады зачытаў сп. Калько прысланыя прывітаньні з нагоды нацыянальнага сьвята сп. А. Міцкевіча — віцэ-старшыні Галоўнай Управы БАЗА, Д-ра Раісы Жук-Грышкевіч — старшыні Галоўнай Управы ЗБК, сп. Я. Міхалюка — старшыні Галоўнай Управы ЗБВБ, а заступнік старшыні Галоўнай Управы ЗБВБ Хведар Кажаневіч вітаў асабіста ад сяброў ЗБВБ у Манчэстары.

Грунтоўны рэфэрат, што абыймаў часы змаганьня за незалежную беларускую дзяржаву перад Актам 25 Сакавіка, у часе яго й пазнейшыя падзеі ў змаганьні беларускага народу, прачытаў сп. Хведар Кажаневіч.

Па заканчэньні афіцыйнае часткі, прысутныя прапяялі нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

На заклік старшыні Ўправы Аддзелу прысутныя злажылі ахвяры на Дар 25 Сакавіка Рады БНР, а сп. Янка Калбаса заклікаў злажыць ахвяры на памятнік Беларускім Героям, што будзе збудаваны ў Нью Джэрзі ў ЗША.

**Янка Крушына**

# 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ

(Заканчэньне з 1 бачыны)

WHEREAS, the resistance of the Byelorussian people is an inspiration to lovers of freedom and democracy everywhere and deserves the sympathy and moral and material support of the entire free world; and

WHEREAS, thousands of American citizens of Byelorussian birth or ancestry, now residing in New Jersey, are commemorating the 54th anniversary of the proclamation of the independence of the Byelorussian National Republic;

NOW, THEREFORE, I, WILLIAM T. CAHILL, Governor of the State of New Jersey do hereby proclaim

March 25, 1972
as
*BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY*
in the State of New Jersey, and request the appropriate observance of the occasian. B

**Прамова сп. Юркі Курылы**

З прамовай (паангельску) выступіў ад імя моладзі студэнт трэйцяга курсу Норвіцкага ўнівэрсытэту сп. Юрка Курыла. „Хоць маё студэнцкае жыцьцё праходзіць далёка ад дому, — сказаў прамоўца, — я ўсё-ж адчуваю, што маё месца тут між вас, і я ганаруся тым, што магу прамаўляць да вас ад імя Беларуска-Амэрыканскае Маладзежнае Арганізацыі".

Тымчасам як амэрыканскія сацыялёгі, адзначыў сп. Ю. Курыла, гавораць пра прорву ў амэрыканскім грамадзтве паміж моладзяй і старэйшымі, у беларускім грамадзтве ня можа быць прорвы пакаленьняў. Мы бачым, як пры ўсіх нагодах моладзь бярэ ўдзел у сьвяткаваньнях, ладжаных старэйшымі. Гэта відаць на прыкладзе ўдзелу моладзі з дэклямацыямі беларускіх вершаў, у абходзе Дня Панаволеных Народаў, Парадзе Ляяльнасьці, канцэртных выступленьнях з народнымі танцамі.

Сп. Ю. Курыла адзначыў таксама важнасьць асьветы для моладзі, захаваньня чысьціні ідэалаў і ўсьведамленьня свае ролі ў грамадзтве. Гэтыя духовыя якасьці, сказаў ён, дапамогуць нам належна выканаць сваё заданьне ў жыцьці. Ён выказаў адначасна надзею, што ход гістарычных падзеяў павернецца з часам на карысьць беларускага народу. Сп. Ю. Курыла паінфармаваў пра канкрэтную працу, якую пляную Беларуска-Амэрыканская Маладзежная Арганізацыя: правесьці паказ мастацкае самадзейнасьці, наладзіць выдаваньне свайго часапісу, узяць удзел у адзначэньні сёлетніх 90-х угодкаў ад нараджэньня Я. Купалы й Я. Коласа. Прамоўца заклікаў старэйшае грамадзтва працягваць далей вызвольны высілак запэўняючы, што моладзь дасьць у гэтым усялякае магчымае падтрыманьне.

**Мастацкая частка**

У мастацкай частцы ўзялі ўдзел піяністка Эльза Зубковіч (акампаніямэнт), мэцца-сапрана Ліза Маркоўская (арыя Зыбэля з „Фаўста" Гуно, рамансы камп. Э. Зубковіч на словы А. Гаруна й М. Кавыля „Вясна ў няволі" й „Прыгажосьць Беларусі" ды раманс камп. К. Барысаўца на словы Я. Золака „Ты прыйдзі"); сапрана Галіна Орса (дуэт з Л. Маркоўскай — раманс Э. Зубковіч „Мая краіна" й народная „Сваток" у апрацаваньні Э. Зубковіч). Мэлядыйнасьць песьняў, цяпліня й беспасярэднасьць выкананьня — даўная характарыстыка гэтага дуэту ў суправаджэньні піяністкі й кампазытара Эльзы Зубковіч — сталых удзельніцаў беларускіх урачыстасьцяў у Нью Ёрку.

Ніна Запруднік, вучаніца сп-ні Зубковіч, пачала мастацкую частку выкананьнем мэлядыйнае народнае „Бульбы" ў апрацаваньні сп-ні Э. Зубковіч. З дэклямацыямі вершаў выступалі вучні беларускае нядзельнае школы (падрыхтаваныя сп-няй Н. Орса) Юрка й Алеся Кіпель. Ніна Абрамчык выканала на піяніне „На пэрсыдзкім рынку" Альбэрта Кэтэлбі, а Маргарыта Кажан, удзельніца колькіх аркестраў у штаце Канэтыкет і філярмоніі гор. Стэмфарду, выканала на йскрыпцы „Люблю наш край" М. Равенскага й „Чардаш" В. Монты.

З чатырма народнымі танцамі выступілі ў праграме дзьве танцавальныя групы моладзі зь Нью Ёрку й Нью Джэрзы. Адна зь іх, пад кіраўніцтвам сп-ні Алы Орса-Рамана, выканала „Лявоніху" й „„„Таўкачыкі", другая — ‚Крыжачок" і „Мяцеліцу" (пад музыку, найграную на йстужку Нінай Запруднік). Як паінфармавала гледачоў сп-чна Раіса Станкевіч, энэргічная й самаахвярная арганізатарка моладзі, „Крыжачок" наўчыла сп-чна Галіна Тумаш, а „Мяцеліцу" — сп-ня Оля Запруднік). Ад гэтага апошняга танцу група ўзяла сабе й назоў — „Мяцеліца". Усе танцы былі выкананыя энэргічна, жвава, з усьмешкамі, і найлепшую ацэну іх можна было прасачыць на задаволеных тварах гледачоў у залі.

**Рэзалюцыя сходу**

Сп-чна Ларыса Курыла прачытала тэкст рэзалюцыі, якую ўдзельнікі сходу прынялі аднадушна. У рэзалюцыі кажацца пра тое, што 200 гадоў таму царская Расея пачала захоп беларускіх земляў; што створаны 50 гадоў таму Савецкі Саюз — нічога іншага, як працяг у новай форме старое каляніяльнае палітыкі расейскіх цароў, што адзначаецца русыфікацыяй і душэньнем беларускае нацыянальнае культуры. У рэзалюцыі выказваецца таксама пратэст супраць дыскрымінацыі беларускае мовы ў радыяперадачах „Голасу Амэрыкі" й дамаганьне гэткія перадачы ўвесьці; кажацца пра супраціў на Беларусі расейскаму панаваньню, пра што сьветчаць выпады савецкае прапаганды супраць г. зв. „рэцыдываў нацыяналізму". У рэзалюцыі выказваецца таксама наважанасьць весьці далей змаганьне за ўжыцьцёўленьне ідэалаў БНР, ды зварот да ўраду ЗША судзейнічаць гэтаму змаганьню.

**Заканчэньне**

Сп. Тамаш Супрун, старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы, падзякаваў усім за ўдзел у сьвяткаваньні й выказаў упэўненасьць, што ніякія варожыя сілы ня здушаць імкненьня беларускага народу да свабоды й незалежнасьці — як зіма ня ў сілах скаваць жыцьцядайнага й жыцьцятворнага вясьнянага адраджэньня.

Урачыстасьць закончылася словамі беларускага нацыянальнага гімну — „ў крывавых муках мы апродзім жыцьцё Рэспублікі свай".

**Я. З.**



 

# 25 САКАВІКА Ў ТАРОНЬЦЕ

Урачыстасьці зьвязаныя з адзначэньнем 54-ых угодкаў Абвешчаньня Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ладзіў у Тароньце, як і папярэднімі гадамі, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады. Яго стараньнем Мэр Таронта абвесьціў праклямацыяй суботу 25 сакавіка Беларускім Днём, а ля Ратушы Таронта ўзьняты быў Беларускі Нацыянальны бел-чырвона-белы Сьцяг.

У нядзелю 26 сакавіка ў беларускіх цэрквах Сьв. Кірылы Тураўскага й Сьв. Еўфрасіньні Полацкай зраніцы адбыліся ўрачыстыя Багаслужбы. Цэрквы былі перапоўнены, бо, апрача тарантонцаў, зьехаліся Беларусы й зь іншых мясцовасьцяў Канады ды ЗША. Кажная беларуская арганізацыя — сябра ККБК — пасвоему адзначала ў сябе Дзень Незалежнасьці Беларусі. Гэтак, прыкладам, ЗБК наладзіла ў сваёй залі выстаўку матар'ялаў, зьвязаных зь гісторыяй БНР і сьвяткаваньняў 25 Сакавіка ў мінулым. Выстаўка будзе трываць некалькі тыдняў. На будынку БР-ГЦ (на Ст. Клярэнс) 25-га й 26-га сакавіка ўзьвіваўся, побач канадыйскага, і бел-чырвона-белы Сьцяг. У царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай увайшло ўжо ў традыцыю ў дзень сьвяткаваньня 25 Сакавіка пасьля Сьв. Літургіі адпраўляць Малебен за Беларусь, у часе якога ганаровая варта моладзі трымае Беларускі Нацыянальні Сьцяг.

У нядзелю, 26-га, а чацьвертай гадзіне папаўдні вялікая заля Харвацкага Дому на 1650 Дюпонт Ст. запоўнілася Беларусамі ўсіх нашых арганізацыяў і напрамкаў з розных бакоў Канады. Былі госьці й з ЗША — Дэтройту. Удзельнікаў сходу віталі пры ўваходзе у залю маладыя дзяўчаты ў беларускіх нацыянальных касьцюмах, давалі ім беларускія сьцяжкі й праграмкі да выбару ў беларускай або ангельскай мове. Па другім баку дзьвярэй Літаратурна-Мастацкі Клюб „Пагоня", у паразуменьні з ККБК, наладзіў выстаўку беларускіх ды аб Беларусі кніг і прадметаў беларускага мастацтва. Выстаўка цешылася зацікаўленьнем наведвальнікаў.

Неяк радасна было паглядзець і палюбавацца сотнямі сваіх людзей, што з году ў год на Сход 25 Сакавіка сплываюць зусюль разам для аднае мэты. Ды найболей цешыць моладзь, якая побач з дарослымі прымае на сябе адказнасьць за арганізацыю нацыянальнага сьвята.

Але ўвага! Усе ўстаюць. Канадзкі Гімн. Д-р Б. Рагуля ўва ўступе да сваёй прамовы ў ангельскай мове выражае задаваленьне й гордасьць з таго, што яму давялося быць старшынём ККБК, з таго, што Беларусы Канады, незалежна ад сваіх розьніц у паглядах, ды прыналежнасьці да арганізацыяў, патрапілі ўзьняцца да тае чалавечае й нацыянальнае годнасьці, каб супольна й дружна маніфэставаць сваю беларускасьць і вернасьць сваім вызвольным ідэялам. Далей ён прадставіў коратка гісторыю беларускага народу, ягоную славу, заняпад, адраджэньне й стойкае імкненьне да дзяржаўнай самастойнасьці. Акрэсьліў ролю беларускае эміграцыі, як „споўксмэна" беларускага народу на Бацькаўшчыне, якому гаварыць аб сабе праўду акупант забараняе.

Пасьля прамаўляў прадстаўнік з Дэпартмэнт оф Стэйт, Аддзелу Грамадзянства й Іміграцыі, сп. Глен Ален. У сваёй прыхільнай і цёплай прамове ён выразіў надзею, што запалены Актам 25 Сакавіка агонь волі не пагасьне ў сэрцах Беларусаў да таго часу, пакуль не разгарыцца ён ясным полымем дзяржаўнай незалежнасьці на Беларусі.

Хараша прамаўляў і прадстаўнік ад Рады ды Мэра Таронта сп. В. Бойчук паангельску. А як Украінец ад сябе гаварыў ён паўкраінску аб падабенстве гісторыі й супольнасьці інтарэсаў беларускага й ўкраінскага народаў.

Наканец Спадар Янка Сурвіла даў добра пабудаваны, інфармацыйны прынагодны даклад пабеларуску. Прыехаў ён на сьвята з жонкай — ведамай мастачкай Івонкай Шыманец-Сурвіла й дачушкамі Ганулькай і Паўлінкай з Атавы.

Праграму мастацкай часткі вёў Язэп Пітушка малодшы (віцэ-старшыня СБМК). Ён і пачаў праграму дэклямацыяй верша Максіма Багдановіча „Пагоня". Прыгожай беларускай вымовай і добрай дыкцыяй кранаў душу маленьнем: „Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць!". Пасьля дэклямацыі на часіну зачыняецца заслона. Музыкі спадара Б. Лішчонка рыхтуюць струны. Танцавальная група „Лявоніха" ўдала выконвае народны танец „Юрачку". А тады Язэп заказвае „Беларускую польку" ў выкананьні дзяцей пад кіраўніцтвам Эвы Пашкевіч (Старшыні СБМК). У такт полькі выбягаюць на сцэну дробныя пукаценькія дзяўчаткі. Вяночкі на галоўках, пацеркі бразгочуць, а што за задор у тварыках, паставах і пэўных рухах! Проста гатовыя на заваяваньне, калі ня сьвету, дык сэрцаў! Іх вітаў спантанічны выбух воплескаў. Пасьля беззаганнае „Полькі" Валя Велесьніцкая дэклямуе верш Уладзімера Дубоўкі ў ангельскім перакладзе Веры Рыч „О Беларусь, мая шыпшына..." Англамоўным госьцям адхіляецца ражок заслоны на тайніцы прыгаства беларускае паезіі. Старшыня ККБК уручае Спадару й Спадарыні Глен Ален — прыяцелям Беларусаў і сталым гасьцём на Акадэміях 25 Сакавіка й іншых беларускіх імпрэзах — як падарак ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады кнігу Веры Рыч „Як вада, як агонь" — Анталёгію беларускае паэзіі ў ангельскай мове.

Яшчэ раз дзеці затанцавалі „Таўкачыкі", а група „Лявоніха" закончыла мастацкую праграму завіхастай „Лявоніхай".

Беларускі Нацыянальны Гімн.

На заканчэньне некалькі заўваг. Падрыхтоўка да нацыянальнага сьвята вялася старанна. Урачыстасьці прайшлі ўдала. Сход вёўся спраўна без зацягваньня. Фрэквэнцыя добрая. Мастацкую частку дала моладзь. Наогул удзел моладзі ў арганізацыі сьвяткаваньняў сёлета быў значна большы, як папярэднімі гадамі, што вельмі цешыць. Шмат чаго было добрага, ды ня ўсё.

Шмат было захадаў і стараньняў, каб атрымаць дазвол на ўзьняцьце Беларускага Нацыянальнага Сьцягу ля Ратушы Таронта. Сьцяг быў узьняты. А колькі прышло аб азначанай гадзіне Беларусаў аддаць яму пашану? А дзе была рэшта? А дзе была большая частка моладзі? Што падумаюць аб нас гарадзкія ўлады, у якіх рабіліся захады? Дзе нашае нацыянальнае сумленьне?

**Р. Ж-Г.**

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў ДЭТРОЙЦЕ

Сьвяткаваньне ўгодкаў 25-га Сакавіка ў гэтым годзе адбылося 19-га сакавіка ў нядзелю, так як на гэты дзень была назначаная Божая Служба, якая, пакульшто, адбываецца ў Дэтройце адзін раз на месяц.

А 10-ай гадзіне раніцы Яго Прасьвяшчэнства Уладыка Мікалай з Канады адслужыў Божую Службу й сказаў прынагодную казань, у якой глыбока праанализаваў пытанне беларускага нацыянальна-палітычнага жыцьця й тых праблемаў, што вынікаюць зь яго. Прыгожа пяяў царкоўны хор пад кіравецтвам сп. Ю. Мазуры.

Пасьля Службы пачалася другая частка ўрачыстасьці ў залі пад царквою, на якую злажылася прамова-агляд падзеяў на Беларусі ў сучаснасьці, што зрабіў сп. Ю. Мазура, які й кіраваў другой часткай урачыстасьці як Старшыня Аддзелу БАЗА ў Дэтройце, а таксама прамова д-ра Я. Сажыча — Галоўнага Кіраўніка Беларускіх Вэтэранаў на Эміграцыі.

На асаблівую ўвагу заслугоўваў выступ дзяцей—гадунцоў нядзельнае школы, якую зарганізавалі й кіруюць да гэтага часу спадарыні Вара Сажыч і Людміла Бакуновіч. Мастацкі выступ дзяцей пачаўся вершаваным прывітаньнем прысутных з 25-ым Сакавіком, пасьля чаго Язэпка Сажыч прыгожа прадэклямаваў верш „Ты мой брат, каго зваць Беларусам" і адбылося груповае выкананьне песьняў „Арляняты маладыя" і „Люблю наш край". Сп-ня Марыся Пляскач умела выканала на піяніне некалькі беларускіх песьняў М. Куліковіча.

Прыгожа вышытыя беларускія народныя вопраткі дзяцей надавалі сваеасаблівы калярыт цэлай урачыстасьці.

Спадарыні Т. Пляскач і В. Сажыч дуэтам выканалі некалькі беларускіх песьняў пад акампаньямант сп-чні Марысі Пляскач на піяніне, а сп. Мазура Ю. выканаў песьню свае кампазыцыі „Расстрэл сястры", што сымбалізуе зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі й паняволеньне яе.

Сьвяткаваньне было зарганізаванае Дэтроіцкім Аддзелам БАЗА. Беларускія жанчыны не засталіся з боку. Яны падрыхтавалі вельмі смачны абед, за што ім належыцца гэтта шчырая падзяка. На гэты раз падзяка належыцца спадарыням: Марыі Возьняк, Тарэсе Пальхоўскай, Кляры Кумэйшы, Вары Сажыч і Людміле Бакуновіч.

Беларускім нацыянальным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" была законьчаная ўрачыстасьць Акту 25-га Сакавіка.

**Ул. Бакуновіч**

# ДРУГАЯ КАНВЭНЦЫЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ У ЧЫКАГА

Заснаваная на першай сваёй Канвэнцыі ў травені летась у Вашынгтоне Усеамерыканская Рэспубліканская Рада Нацыянальнасьцяў будзе праводзіць другую сваю гадавую Канвэнцыю 5-7 травеня сёлета ў Чыкага. Рэспубліканская Рада Нацыянальнасьцяў, афіцыйна вызнаваная й зацьверджаная Цэнтральным Рэспубліканскім Камітэтам, задзіночвае звыш трыццаці этнічных групаў амэрыканскіх грамадзянаў рознанацыянальнага паходжаньня, што перахоўваюць і культывуюць у сваім жыцьці нацыянальныя й культурныя традыцыі народаў свайго паходжаньня. Паўнапраўнымі сябрамі Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў зьяўляюцца й Амэрыканцы беларускага паходжаньня.

Паводля колькасьці Беларуска-Амэрыканскіх Рэспубліканскіх штатавых Клюбаў, якіх на сяньняшні дзень пяць, Беларусы маюць права выслаць на Канвэнцыю трох дэлегатаў з правам пастанаўляючага голасу й трох іхных заступнікаў з правам дараднага голасу, апрача іх, запрошаныя да ўрзелу ў Канвэнцыі з правам дараднага голасу й Беларусы, што зьяўляюцца сябрамі сталых камітэтаў Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў, якіх ёсьць дзесяць. Беларускія дэлегаты й іхныя заступнікі будуць на Канвэнцыі з Чыкага, Дэтройту, Кліўленду й Нью Ёрку.

На гэтай Канвэнцыі будуць прынятыя, побач зь іншымі, рэзалюцыі, ужо заакцэптаваныя Рэзалюцыйным Камітэтам Рады, што беспасярэдня датычаць да Беларусі й Беларусаў: 1. рэзалюцыя ў справе сяброўства БССР у Задзіночаных Нацыях і патрабаваньня права на нацыянальнае самавызначэньне беларускага народу й ягоную дзяржаўную незалежнасьць; 2. у справе ўвядзеньня беларускае мовы ў радыяперадачы Голасу Амэрыкі (гэтая рэзалюцыя, упяршыню прынятая на першай Канвэнцыі ў травені 1971 году, будзе цяпер паўтораная); у справе няліквідаваньня радыястанцыяў „Свабода" й „Вольная Эўропа".

З увагі на важнасьць гэтых рэзалюцыяў, беларуская дэлегацыя на Другой Канвэнцыі Рады Нацыянальнасьцяў у Чыкага, наагул добра ўкамплектаваная, павінна быць асабліва актыўнай.

**Ст. Ст.**

## ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"!

# "І ЧАСАМ СПАМЯНІ ПРА ЯСЬКУ СВАЙГО"

„Бо я Табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што толькі тады зажывеш шчасьліва, калі над Табой маскаля ўжо ня будзе!"

**Яська Гаспадар з-пад Вільні**

Дазвольце сьпярша зьвярнуць вашую ўвагу на фізычную навучальную карту БССР, выдадзеную ў 1966-м годзе ў Маскве, з напісаў на якой вы, між рознага іншага, даведаецеся, што Ваўкавыск славіцца сваім музэем П. Баграціёну, а Кобрын А. Сувораву. Аднак затое на ёй паміж імі нічым ня адзначаны горад Сьвіслач, хоць ён шмат чаго гаворыць беларускаму сэрцу.

Ён ведамы з 15-га стагодзьдзя, што сьцьвярджаў калісьці адмысловы 40-мэтравы абэліск на ягонай базарнай плошчы. Аб тутэйшым колішнім дабрабыце сьветчылі й вялікі кірмаш і 18 значных гарбарняў. Ня выпадкова тут у пачатку мінулага стагодзьдзя зьявілася гімназія, а ў 1867-м годзе адкрылася настаўніцкая сэмінарыя. Другая сусьветная вайна бадай дашчэнту зруйнавала Сьвіслач, але ён аднавіўся й мае звычайныя для раённых цэнтраў прадпрыёмствы накшталт хлебазаводу, бровару й цагельні, а ўсё-ж не таму гэты горад дарагі для Беларусаў.

Ня выпадкова пралягае праз Сьвіслач вуліца Кастуся Каліноўскага, які вучыўся ў ягонай гімназіі, разьмешчанай у былым палацы графа Тышкевіча. Імя векапомнага змагара носіць тутэйшая сярэдняя школа, а перад ёй устаноўлены яму помнік-бюст. У дзесяці кілямэтрах ад Сьвіслачы знаходзіцца вёска Якушоўка, дзе прайшло ягонае дзяцінства і куды ён зьвярнуўся па сканчэньні Пецярбурскага ўнівэрсытэту, каб неўзабаве стацца ведамым, як змагар, яшчэ пад прыбранымі імёнямі Васіля Сьвіткі й Яські Гаспадара з-пад Вільні. З тых часоў захаваліся тут стары млын, векавая бяроза і такія-ж прысады каля сядзібы Каліноўскіх, аднак іх не ахоўваюць, хоць бліжэйшаму калгасу й надалі ягонае імя.

У цяперашнім Беластоцкім ваяводзтве Польшчы апынулася вёска, дзе 21-га студзеня 1838-га году, у сям'і зьбяднелага шляхціча, нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Яна навет цяпер ня прыгадваецца ў турыстычных маршрутах, бо, як шчыра падала ў сваім нумары ад 12 студзеня 1969 году Беластоцкая газэта „Ніва": „У Мастаўлянах нарадзіўся правадыр Студзенскага паўстаньня на Літве, але з гэтае вялікае традыцыі ў іх нічога не засталося".

І нам не стае мужнасьці, каб абвінавачваць Беларусаў Беласточчыны ў забыцьці Каліноўскага. Яшчэ ў 1958-м годзе яны зьвярнуліся да адпаведных установаў з прапановай паставіць тут помнік славутаму сыну народу, а калі дагэтуль яго няма, дык ня іхняя ў тым віна. Ягоны лёс у СССР падзялілі таксама нацыянальныя правадыры іншых народаў, як гэта, напрыклад, сталася зь гэроем Каўказу Шамілём.

На жаль, не ўшанаванае належным чынам і месца сьмерці Кастуся Каліноўскага. У Вільні, на Лукіскім пляцы, перайменаваным цяпер у Ленінскі, дзе 22 сакавіка 1864-га году ён загінуў, зьдзіўляючы сваёй мужнасьцю навет мураёўскіх катаў, цяпер на сьціплай мэмарыяльнай дошцы значыцца толькі нібы Лятувіс... Кастас Каліноўскас.

Сумны лёс, паводля „Літаратуры і Мастацтва" (5. 6. 69), пасягнуў у Сьвіслачы помнік паплечніку Каліноўскага — Рамуальду Траўгуту, які вучыўся ў тутэйшай гімназіі й закатаваны ў Варшаўскай цытадэлі. У 1928-м годзе сьвіслачане сваім коштам паставілі яму прыгожы помнік, на якім была дошка зь ягоным патрэтам і бронзавы арол з распасьцёртымі крыламі. У верасьні 1939-га году ад помніку застаўся толькі пастамэнт, а на яго пазьней паставілі штампованую стандартную статую футбалістага. Праўда, у № 2-м „Беларусі" за 1968-ы год, у зацемцы „Там, дзе сьпяць „дзяцюкі" Каліноўскага", падавалася аб іхняй брацкай магіле ў лесе паміж вёскамі Малявічы й Уладыкі паблізу Ільлі, дзе ляжыць каменная пліта, і дадавалася, што ў Куранцы ёсьць таксама магіла 18-ці паўстанцаў, на якой, відаць, нейкім цудам ацалеў стары крыж. Аднак калі прыгадаць, што ў часе паўстаньня было 1229 баявых сутыкненьняў, дык колькі гэтых занядбаных магілаў яшчэ ня выяўленыя.

Нічым дагэтуль ня ўслаўленыя месцы бітваў паўстанцаў з салдатамі Расейскае імпэрыі пад Біржай, Мілавідамі, Пружанамі, Кобрынам, Горкамі. Ніхто не ўшанаваў памяці такіх гэрояў, як Серакоўскі, Мацкявічус, Чарвінскі, Гэйштар, ксёндз Ігнат Казлоўскі, Калышка, граф Плятэр. Але ніколі ня забудзе народ тыя кветкі, якія ад ягонага імя кінула пад ногі невядомаму паўстанцу, калі яго вялі да царскае шыбеніцы, палкая Каміля, дачка Дуніна-Марцінкевіча, за што царскі ўрад яе адразу абвесьціў вар'яткай.

Здавалася-б, першае месца па ўшанаваньню памяці Кастуся Каліноўскага мусіць належыць сталічнаму Менску. І запраўды яшчэ ў сьнежні 1965-га году ў „Полымі" на не ганаровай передапошняй старонцы зьявілася сьціплая абвестка: „Нядаўна пры домакіраўніцтве № 22 гораду Менску па вуліцы Каліноўскага на грамадзкіх асновах створаны музэй выдатнага сына беларускага народу К. Каліноўскага". Але аж праз два гады ў „Чырвонай зьмене" зьявіўся запярэчны ліст самога ініцыятара музэю мастака М. Маслава. Трэба адзначыць, што ўсё-ж „Чырвоная зьмена" адначасна папрасіла сваіх чытачоў падтрымаць зародыш гэтага музэю, хоць ёй трэба было-б зьвярнуцца ў гэтай справе не да іх, а беспасярэдня да Міністэрства культуры БССР. Не дапамагла тут пазьней і падобная да канцылярыйнае адпіскі карэспандэнцыя „Памагчы энтузіясту" ў „Літаратуры і Мастацтве".

І таму дарэмна вы будзеце шукаць у даведніку для турыстых „Мінск" якога-небудзь прыпаміну аб музэю Кастуся Каліноўскага, але затое зь ягонага разьдзелу „Месцы прабываньня выдатных людзей" дазнаецеся, што ў 1881-м годзе ведамаму расейскаму генэралу Скобялаву, заваёўніку Таджыкаў і Узбэкаў, была нададзеная годнасьць ганаровага грамадзяніна Менску, бо, бачыце, ён нейкі час узначальваў тутэйшы гарнізон.

Магчыма хто-небудзь скажа: навошта ўжываць пераважна чорныя хварбы. Таму адзначу, што яшчэ ў лістападзе 1923-га году мянчане пабачылі п'есу Я. Міровіча „Кастусь Каліноўскі", якая выклікала тады мноства захопленых водгукаў, а Зьмітрок Бядуля ў сваёй рэцэнзіі, зьменшанай у „Савецкай Беларусі, пісаў аб ёй: „Гэта першая беларуская гістарычная драма. У нашым сцэнічным рэпэртуары яна вызначае сабой эпоху". Але партыйная крытыка, паводля сьветчаньня. У. Няфёда ў кніжцы „Станаўленьне беларускага савецкага тэатру" (Менск. 1965 г.), знайшла, што ў гэтай п'есе недастаткова адбілася блізкасьць паўстанцаў да ідэяў расейскіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў і яна таму беспаваротна зьнікла.

Тое-ж і з тае прычыны пасягнула ў 1947-м годзе опэру Д. Лукаса „Кастусь Каліноўскі", хоць у ейным другім прымусовым варыяньце, як адзначае Г. Цітовіч у кніжцы „Музычная культура БССР" (Масква, 1958 г.), былі больш падкрэсьленыя дапамога й удзел прадстаўнікоў расейскага народу ў паўстаньні. Бліскучы адбітак знайшоў Кастусь Каліноўскі ў рамане Уладзімера Караткевіча „Каласы пад сярпом тваім", але шмат часу забралі ў пісьменьніка перапрацоўкі, бо, на агульнаабавязваючую думку ўбогіх вульгарызатараў тыпу Абэцэдарскага, Кастусь Каліноўскі нібы ўсяго толькі зьяўляўся рэхам Чарнышэўскага на беларускім грунтце.

І хочацца думаць, што ўсё-ж прыйдзе той сьветлы час, калі замест жалюгоднага ўшанаваньня ў ...домакіраўніцтве № 22, на адной з цэнтральных плошчаў Менску паўстане велічны помнік Кастусю Каліноўскаму і тым, хоць часткоха, спраўдзяцца ягоныя запаветныя перадсьмяротныя словы „З-пад шыбеніцы":

Бывай здаровы, Мужыцкі Народзе!
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе!
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра Твайго.

А вакол яго застыгнуць напагатове ягоныя самаадданыя дзяцюкі, якія ў „Песьні каліноўцаў" Натальлі Арсеньневае прыракаюць:

Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята
На змаганьне за сьвята для мазолістых рук.
За зямлю для аратых, і за сонца ў хатах,
За ўвесь твой народ, за цябе Беларусь!

**Юрка Віцьбіч**

# ДА ВЕРНІКАЎ БАПЦ У АЎСТРАЛІІ



Дарагія й любыя Браты й Сёстры, паважаныя й майму сэрцу мілыя мае Суродзічы Беларусы ў Аўстраліі. З Божае волі, у паразуменьні з Уладыкам Андрэем, на маю долю выпала прыехаць у Аўстралію на Паховіны нашага Першага Герарха Архіяпіскапа Сяргея. Пры гэтай нагодзе я застаўся два месяцы ў Аўстраліі, каб самому бліжэй пазнаёміцца з Вашымі праблемамі на месцы, а таксама, колькі ў маёй магчымасьці, памагчы Вам разьвязаць тыя праблемы, якія супольна дающца разьвязацца. Пры абмене думак, мы ўзаемна многа чаго даведаліся й пазналі бліжэй адзін аднаго, таму пры далейшых нашых перапіскак мы будзем лепш разумець адзін аднаго.

Многа царкоўных справаў засталося да палагоджаньня. Адна з найважнейшых, а мо' самая найважнейшая, гэта павялічэньне ліку сьвятароў. Пры ўсіх маіх высілках і стараньнях, я не знайшоў ніводнага кандыдата на сьвятара. Зь вялікім болем сэрца я выяжджаў з Сыднэю. У паўтарамільённым горадзе жыве вялікая колькасьць Беларусаў, да некалькіх сот новай эміграцыі і найбольшая колькасьць нацыянальна сьведамай нашай інтэлегенцыі ў Аўстраліі. І нацыянальна-грамадзкая актыўнасьць у Сыднэі мінімальная ў параўнаньні да ейнае колькасьці.

Кажны народ мае свае рэлігійныя й нацыянальна-культурныя скарбы, і ён усімі спосабамі стараецца павялічыць іх. Найбольшым і найсьвяцейшым скарбам беларускага народу — ягоная родная сьвятая Праваслаўная Царква, БАПЦ. Абавязкам кажнага з нас, ня толькі нашай Герархіі, але ўсіх вернікаў, узмацняць і павялічваць духовы скарб шляхам служэньня Царкве й сваійму народу беларускаму.

Шчыра і ад усяго сэрца дзякую ўсім Вам за Вашую дапамогу і апеку, якую Вы выявілі мне праз увесь час майго побыту ў Аўстраліі. Асабліва дзякую Настаяцелям, Парахвіяльным Радам і ўсім тым вернікам БАПЦ, хто дапамагаў мне ў маёй місыйнай працы, ды ўсім братом і сёстрам у Ісусе Хрысьце, што шчыра працуюць для сваей роднай Царквы.

Заклікаю Вас, дарагія мае Браты й Сёстры, будзьце вернымі свайму беларускаму народу ды ідзіце й пільнуйцеся простага шляху Веры праваслаўнай. Будзьце вернымі сваёй роднай і сьвятой БАПЦ, бо яна асьвячана мучанікамі сьвятарства на чале зь мітрапалітам Мэлхісадэкам, і мноствам вернікаў яе. „Насіце цяжары адзін аднаго й гэтак выпаўняйце закон Хрыстовы" (Гал. 6:2).

Зь вераю й надзеяй у сэрцы маім вітаю ўсіх Вас з нагоды радаснага й непаможнага Сьвята над Сьвятамі, Сьвятога Вялікадня — Уваскрасеньня Хрыстовага! ХРЫСТОС УВАСКРОС — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!!!

ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

**Вялікдзень, 1972 году**

**Пакорны Япіскап Мікалай**

# ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

27 лютага Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў Канады адзначала 80-я ўгодкі ад нараджэньня Максіма Багдановіча.

Хоць за акном была яшчэ канадыйская зіма, ды ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на выставачным стале сярод здымкаў, газэт і кніг з розных друкарняў сьвету, у розных мовах — беларускай, нямецкай, ангельскай — твораў ды аб творчасьці Максіма Багдановіча, побач ягонага патрэту красавалі васількі — сымбаль красы й ягонага „роднага краю". „Зорка Вэнэра" з патэфоннай кружэлкі, як калісьці Максіма, „ціхім каханьнем" грэла душу слухачоў.

Быў гэта ўступ да ўрачыстасьці, якую адчыніла Старшыня Галоўнае Управы ЗБК.

— Услаўляем вечна маладога Максіма Багдановіча, які па сяньня яшчэ кліча коньнікаў Пагоні: „Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць! Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць . . ."

Расказаць аб тым, хто быў Максім Багдановіч, чаму ён нам дарагі, вялікі й несьмяротны, яна папрасіла Др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Сваю прамову, якая здраджала ўсебаковае й глыбокае веданьне ды любоў да творчасьці М. Багдановіча, прамоўца пачаў перадсьмяротным вершам паэты: „У краіне сьветлай, дзе я ўміраю, у белым доме, ля сіняй бухты, я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты".

І ад сьмерці на 25-тым годзе жыцьця да дзяцінства й карэньняў паходжаньня — казачніцы-шаптухі прабабкі, этнографа бацькі — дакладчык намаляваў загадку жыцьця Паэты. Народжаны ў Менску, з паходжаньня Беларус, узгадаваны ў чужой культуры, у чужым асяродзьдзі Расеі, горача адданы свайму беларускаму народу й Бацькаўшчыне, з на дзіў, на ягоны век і здароў'е, багатым духовым і ўмысловым багажом, паэта творыць — піша пабеларуску й ставіць сабе за мэту жыцьця ўзьняць маладую беларускую літаратуру на ўзровень літаратур заходня-эўрапейскіх. І мэту сваю дасягае.

Паводля тэматыкі прамоўца вылучыў вершы фальклёрыстычныя й для прыкладу зачытаў „Лявоніху", патрыятычныя — санэт „Паміж пяскоў эгіпецкай зямлі" і агульналюдзкія. Паказаў на разнаякасьць формы верша, яго старанную апрацоўку й глыбіню думкі.

Максім Багдановіч, тэарэтык, у сваіх вершах разглядае праблемы мастацтва й красы й выказвае свае погляды. І гэтак, каб верш мог узьдзеяць на чытача, ён мусіць быць высокамастацкім — дакладна апрацаваным, адшліфаваным. Слабы верш разаб'ецца аб цьвёрдыя сэрцы людзей „не збудзіўшы сьвятога сумленьня" — кажа Паэта ў вершы „Песьняру": „Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, абрабіць яго трэба з цярпеньнем. Як ударыш ты ім, — ён, як звон зазьвініць, брызнуць іскры з халодных каменьняў".

Сваёй чуткай душой Паэта ўмее адчуць і бачыць красу скрозь, на'т у лужы й гразі й адкрывае яе й нашым вачом і сэрцам, як у санэце „На цёмнай гладзі сонных луж балота . . . закрасавалі чарачкі лілей . . .", ды ў вершы „У вёсцы". Ды краса бывае розная, тая вонкавая й тая вышэйшая, якую Паэта знайшоў у замурзанай худой дзяўчынцы, што пацяшала хлопчыка ад сьлёз. „Яна (дзяўчынка) здавалася, была аж да краёў паўна якойсь шырокаю, радзімаю красою, і помню я ні міг пахарашэў душою. А можа не краса была ў дзяўчынкі той, — у дзяўчынкі ўпэцканай, і кволай, і худой, — а штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі стараўся выявіць праз Маці Божай лікі".

Наканец Паэта разглядае й супастаўляе матар'яльную карысьць і красу. І ў вершы аб мыльных пузырох, ды перадусім у „Апокрыфе" паказвае, што краса ёсьць мэтай і карысьцяй сама ў сабе — „Няма красы без спажытку, бо сама краса й ёсьць той спажытак для душы".

„Апокрыф" зачытаў прамоўца, на заканчэньне свайго прыгожага дакладу, поўнасьцю. Тады хацелася, каб усё кругом заставалася моўчкі, каб не зьнікаў вобраз Хрыста й Апосталаў у белым кужалі з босымі нагамі, музыкі й жнеяў, каласоў, васількоў і сонца, каб краса была ў нас і з намі хоць яшчэ крыху дужэй . . .

Далей, былі дапаўненьні й пытаньні, ды паведамленьні, дзе можна дастаць „Вянок" і кнігі аб Максіму Багдановічу. Ізноў чутны былі песьні: „Лявоніха", „Пагоня", „Зорка Вэнэра". І імпрэза зь песьнямі й паэзіяй закончылася Нацыянальным Гімнам, але перад самым яе заканчэньнем было выказанае пажаданьне рабіць „гэткія даклады часьцей". **Р.**

## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ Ў КАНАДЗЕ!

Парахвіяльная Рада Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце гэтай дарогай дзякуе ўсім Вам, нашым Суродзічам Беларусам у Канадзе, хто з Вас прыняў нашых сьвятароў, яп. Мікалая і а. Міхаіла, зь Сьвятой Вадой, ды ўсім ахвярадаўцам на сваю родную Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. што пры гэтай нагодзе зладжылі, усе разам, каля 1,250.00 дал.

Адначасна вітаем усіх нашых Суродзічаў Беларусаў у Канадзе — ХРЫСТОС УВАСКРОС — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!!!

**Вялікдзень, 1972 году**

**Парахвіяльная Рада**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Ветліва прашу зьмясьціць у Вашай газэце наступнае зьняпраўджаньне:

У № 198 „Беларускага Голасу" за сьнежань 1971 г. была зьмешчаная карэспандэнцыя з Сыднэю пад загалоўкам „Каталікі ладзяць сустрэчу". Амаль кажны сказ гэтай пісаніны — неабаснаваная, злосная й варожая хлусьня. Падпісаў яе „Праваслаўны" ў двукосьсі. Добра, што не забыўся ўжыць двукосьсе, бо калі-б ён быў сумленным і веруючым чалавекам, а ня ворагам усяго беларускага, не распасюджваў-бы гэтае маны.

Дзякуючы якраз гэткім „праваслаўным", у нас у Сыднэі няма свайго прыходу, і спатканьне Япіскапа Мікалая павінна было ладзіць Беларускае Аб'еднаньне ў Новай Паўдзённай Валіі. Няпраўдай ёсьць, што Д-р Я. Малецкі меў якое-небудзь дачыненьне да ладжанай сустрэчы. Няпраўдай ёсьць таксама, што інж. М. Каранеўскі каталік. Далей, наш „праваслаўны" дабрадзей кажа: „каталікі ўхітрыліся выцягнуць з кролечых нораў усіх сваіх прыслужнікаў", называючы жонку, цэсцёў і швагру сп. Каранеўскага бязьдзейнымі. Прозьвішчы Воўк-Левановічаў і Нарушэвіча ня цяжка знайсьці на бачынах беларускага друку пасьля вайны, можна гэтыя прозьвішчы напаткаць яшчэ перад Другой сусьветнай вайной, у часе, калі подлы пісака быў на службе тых, каму відавочна ён служыць і сяньня.

**Сыднэй — Аўстралія, 17. 3. 1972.**

**М. Л.**

# БЕЛАРУСКІ ДОМ У МЭЛЬБУРНЕ

Жыцьцё Беларусаў у Мэльбурне, магчыма як і ў іншых асяродках сьвету, пульсуе раз мацней, раз павальней. Складаюцца на гэта і нутраныя прычыны характару больш мясцовага, як і вонкавыя — характару агульнага ды беларускага перадусім. Актыўная й ініцыятыўная група людзей — ужо больш за 20 год ад прыбыцьця ў Аўстралію — стараецца ўтрымацца пры беларускасьці й прыцягнуць да яе шырэйшае кола суродзічаў. Нажаль, яны, як у бальшыні і ўсе новапрыбылыя сюды, будуючы сваё собскае выгаднае жыцьцё, вельмі неахвотна даюцца ўлучыцца ў беларускае грамадзкае жыцьцё.

З мамэнтам, аднак, набыцьця Беларускага Дому ў Мэльбурне грамадзкая дзейнасьць зноў ажывілася ў дае надзею, што 1972 год будзе больш памысны. Да канца сакавіка супольнымі сіламі Беларускі Дом быў адноўлены звонку: ачышчаныя й памаляваныя бляшаны дах і сьцены галоўнага будынку й прыбудовак — складзіка й прыбіральняў. Цяпер пачнецца рамонт усярэдзіне. А як скончыцца, плянуецца афіцыйнае адчыненьне Беларускага Дому.

У Беларускім Доме ад самага пачатку знайшла сабе прыпынак беларуская школка. Ёсьць месца й для моладзі. У Беларускім Доме ўжо адбыліся два культурныя вечары: першы 28 студзеня прысьвечаны 80-ым угодкам Максіма Багдановіча, другі 11 сакавіка — Міколу Равенскаму. Абодвы з адпаведнымі рэфэратамі й чытаньнем выняткаў з твораў паэты ці слуханьнем з кружэлак або магнітафоннай стужкі (атрыманай ад Д-ра Я. Запрудніка зь Нью Ёрку) песьняў кампазытара. Гэткія вечары, прысьвечаныя слаўным Беларусам і актуальным нацыянальным справам, праектуецца ладзіць часьцей — штомесяца. У Беларускім Доме адбываюцца сьпеўкі хору ды ўсе беларускія зборкі й паседжаньні, а так-жа й большыя нацыянальныя ўрачыстасьці.

**М. Н.**

ці гэта-ж адпаведныя людзі? Рабуюць народ дый усё!

— Хаця ў палітыцы я ня спэц і ня люблю яе; хачу заняцца навукай, бо навука цяпер будзе рухаць жыцьцё, а не палітыка! Але раней мне здавалася, што яны стаяць за народ і гэта мне падабалася!

Параска паставіла на стол гарачанькія смачныя блінчыкі.

— Ну, дык, сынок, падмацуйся, пакуль што, гэтым! А хутка будзе і вячэра.

Як сьцямнела, пачалі ісьці праведаць Кастуся бліжэйшыя суседзі. Кожны падыходзіў да яго з працягнутай рукой і казаў:

— Як маешся, Костка?

— А от, як бачыш.

— Завітаў усё-ткі да бацькі? Ды й ня дзіва: пяць год ня было ні слыху ні дыху . . .

— А тут пра цябе пайшлі чуткі, што ты ўжо „каюк"! — заўважыў дзядзька Ляксей, якому ўжо мінула „далёка за восемдзесят", як ён казаў.

Кастусь усьміхнуўся.

— Каюк! Татарскае слова, але трапнае: каюк! — і ўсё тут табе! Коратка й ясна! Як умее наш народ выбіраць добрыя словы зь іншых моваў!

— Ты кажаш — татарскае, а як яно трапіла да нас? — цікавіўся Ляксей.

— Як трапіла? Шмат дарог было: праз расейскую мову, праз войны — нашы князі бралі ў палон Татараў і садзілі іх на вольных землях, а здатнейшым, навет, і чыны давалі . . .

— А хто мы? — зноў паставіў пытаньне дзядзька Ляксей.

— Хто мы? Раней бы былі — Літва! А цяперака . . .

— А цяперака нам прыдумалі новую мянушку — Бела-русь . . .

— Хоць гаршком назаві, абы ў печ не садзіў, — заўважыў нехта.

— Ну, гэта й так і ня так! Ад таго, як нас назваць, шмат чаго залежыць. Калі белыя русы, значыць ўсё-ткі русы й тады ня рыпайся! Але-ж гэта няпраўда, што мы русы! Літвінамі мы былі, Літвой — кажу, дый Вялікай Літвой, а ня той, што можна пераплюнуць! . . . Была яна яшчэ за памяцьцю майго бацькі! — з націскам пацьвердзіў дзядзька Ляксей. — А калі гэтак, дык і гэць ад нас: мы самі з вусамі! От тамака, у нашай Літні — ты пэўне яшчэ не забыўся! — руду цягаў з балота й я, каб ліць гарматы для твайго цёскі Кастусь, каб сказаць ім гэтае самае—ГЭЦЬ! Але тады нам былі паны на перашкодзе . . .

Кастусь заўважыў:

— Праўда! У бібліятэцы Пецярбурскага ўнівэрсытэту я натрапіў на некаторыя матар'ялы аб 1863 годзе, дзе ёсьць успамінак, што паўстанцы Кастуся Каліноўскага ўрухомілі закінутыя дзьве літні, у якіх выраблялася зброя для іх: адна ў балоціста-лясістай мясцовасьці на поўдзень ад Менску, гэта мабыць наша; — а другая недзе каля Тэльшына ці Цэльшына, напоўнач, здаецца, ад Горадні...

Умяшаўся Нупрэй (ён таксама прыйшоў праведаць Кастуся, хоць і пусьціў пра яго непажаданую чутку, ненаўмысна, пэўне).

— А Палякі з нас сьмяюцца:

„Ад веку мы спалі і нас пабудзілі,
І ў „тылэк" нам далі і зноў палажылі".

Дзядзька Ляксей зморшчыўся.

— Хай сьмяюцца! Але сьмяецца той, хто сьмяецца апошнім. Мы ім больш, чым яны нам давалі ў „тылэк"! Яны, навет, каралёў ад нас пазычалі . . .

— От, дзядзька Ляксей, трэба вас паклікаць на нашага прэзыдэнта, ато вылез тамака нейкі чарвяк! — заўважыла цётка Аўдоля.

Па хаце пакаціўся рогат.

— Ну, дык вось! — зноў пачаў дзядзька Ляксей. — Дойдзе да таго, што зноў будзе Літва — мусіць дайсьці! Толькі гэта ўжо не за маёй памяцьцю будзе. Але ці мала людзей паляжа, пакуль павытураць гэтых трутняў, што тамака заселі і няволяць іншыя народы. Отжа, мне было ўжо гадоў за дваццаць, як і ў школах, і ў гмінах, і ў судох, усюды нашая мова была! А за цароў палічылі гэта за злачынства й у вязьніцу запіралі... Хіба-ж гэта ня трутні?!

— Дзядзька, — умяшаўся Кастусь, — прыдзе зноў наш час: бачыце, „трутняў" цароў выкінулі ўжо . . .

— Цароў выкінулі, але ўжо іншыя прымяшчваюцца тамака, і можа яны будуць горшыя за цароў?!

— То праўда, дзядзька Ляксей. Ужо відаць, што горшыя. От дай ім гэтую самую „разьвёрстку", патомака накармі маскаля, якога паставілі табе ў хату, дай фурманку, адбудзь цягла, заплаці падатак, а патомака можа такое прыдумаюць, што й жыць не захочаш! — уставіла Аўдоля.

— Ну, вось, — зьвярнуўся Ляксей да Кастуся. — А ты, відаць, за іх шмат крыві папсаваў!?

— Было! — прачулена прамовіў Кастусь. — Але падумаўшы лепей, каб гэтага ня было, дык-бы й Беларусі ня было, — запярэчыў.

— Ня ты яе зрабіў сваёй крывёй, а тыя, хто пайшоў у лес, заместа іхнага войска...

Кастусь маўчаў. Умяшаўся зноў Нупрэй:

— А яны ўсюды кажуць, што ня было ў нас свае дзяржавы й чужыя князі панавалі над намі.

Дзядзька Ляксей усьміхнуўся:

— Няма чым ваўку „а-а-а" рабіць, дык ён хоць лыкам! Хай навука сваё слова скажа! Што яны яе сфальшавалі і ўсё пазаблыталі, дык думаюць на гэтым і канец будзе? Маладыя сілы нашы дойдуць да праўды й скажуць: **была й будзе**! Князі над намі нашыя былі! Паперы пісалі на нашай мове! Гаварылі паміж сабой таксама на нашай! Мова была адна — і нашая й іхная! Там, за Літвой недзе, былі Прусы, дык гэта ўжо іншае! . . .

Было ўжо пад поўнач — час ісьці ў ложак. Кастусь заўважыў:

— Добра пагаманілі сёньня! Гэтакія гамонкі — першыя цаглінкі на новы падмурак для нашае Бацькаўшчыны, каб яна стала сапраўды вольнай!

— І яны йдуць ад краю да краю, гэтакія гамонкі, — пацьвердзіў дзядзька Ляксей, бяручы шапку. — Тое, што моладзь уцякала ў лес ад чырвонае мабілізацыі, ты думаеш, само адбывалася: голас народу — голас Божы!

— Так! Vox populi — vox Dei! — пераглумачыў Кастусь.

**Мікола Цэлеш**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяц сакавік) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Ахвяравалі ў часе сьвяткаваньня 54-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Чыкага 19 сакавіка 1972 г.:**

| | |
|---|---|
| 1. А Беленіс | $ 100.00 |
| 2. Д-р В. Рамук | 60.00 |
| 3. В. і І. Пануцэвіч | 20.00 |
| 4. Э. Жызьнеўская | 20.00 |
| 5. Я. і А. Чарнэцкія | 20.00 |
| 6. М. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 7. М. Мароз | 10.00 |
| 8. Д-р Б. Грабінскі | 10.00 |
| 9. В. М. | 10.00 |
| 10. Н. Куліковіч-Градэ | 10.00 |
| 11. Л. Сысой | 10.00 |
| 12. Г. Сенкевіч | 10.00 |
| 13. Т. Тарасэвіч | 7.00 |
| 14. М. М. | 5.00 |
| 15. Ф. Радзюк | 5.00 |
| 16. П. Брушкевіч | 5.00 |
| 17. А. Пілецкі | 5.00 |
| 18. В. Богдан | 5.00 |
| 19. В. Будзька | 5.00 |
| 20. А. Вазноніс | 5.00 |
| 21. М. Аблажэй | 2.00 |
| 22. З. Пілецкая | 2.00 |
| 23. А. Мазан | 2.00 |
| 24. В. Пунтус | 2.00 |
| 25. Ф. Пілецкі | 2.00 |
| 26. К. Пуп | 2.00 |
| 27. Я. Навагродзкі | 1.00 |
| 28. Э. Дудзінская | 1.00 |
| 29. М. Самухін | 1.00 |
| 30 П. Аголец | 1.00 |
| 31. Э. Дудзінскі | 1.00 |
| 32. Шушка | 1.00 |
| 33. Ананімна | 1.00 |
| **Разам:** | **$ 351.00** |

**2. Ахвяравалі на сьвяткаваньні 54-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Нью Ёрку 26 сакавіка 1972 г.:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | $ 100.00 |
| 2. Д-р В. Тумаш | 20.00 |
| 3. Інж. В. Станкевіч | 20.00 |
| 4. Інж. М. Гарошка | 10.00 |
| 5. М. Васілеўская | 10.00 |
| 6. М. Тулейка | 10.00 |
| 7. З. і Д-р В. Кіпель | 10.00 |
| 8. Ул. Дутка | 10.00 |
| 9. П. Пецька | 8.00 |
| 10. Р. В. | 5.00 |
| 11. Т. і В. Міцкевіч | 5.00 |
| 12. А. і Т. Кольба | 5.00 |
| 13. П. Драздоўскі | 5.00 |
| 14. Г. Русак | 5.00 |
| 15. З. Станкевіч | 5.00 |
| 16. А. Шукелайць | 5.00 |
| 17. М. Абрамчык | 5.00 |
| 18. М. Кунцэвіч | 5.00 |
| 19. М. Войтанка | 5.00 |
| 20. Б. Данілюк | 5.00 |
| 21. А. Махноўская | 5.00 |
| 22. А. Міцкевіч | 5.00 |
| 23. С. Гутырчык | 5.00 |
| 24. П. Міранові | 5.00 |
| 25. Н. Орса | 3.00 |
| 26. Э. Зубковіч | 3.00 |
| 27. Э. Маркоўская | 3.00 |
| 28. В. Стома | 2.00 |
| 29. П. Кажура | 2.00 |
| 30. М. Кіпель | 2.00 |
| 31. А. Бжэнк | 1.00 |
| 32. П. Бардун | 1.00 |
| 33. М. Божка | 1.00 |
| 34. Я. і Н. Койчэў | 1.00 |
| 35. Савіцкі | 1.00 |
| 36. Б. Р. | 1.00 |
| 37. 8 чалавек ананімна | 17.00 |
| **Разам:** | **$ 311.00** |

**3. Сабрана сп. А. Стрэчанем сярод Беларусаў Кліўленду:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Стрэчань | $ 15.00 |
| 2. А. Шастак | 12.00 |
| 3. Т. Кананчук | 10.00 |
| 4. К. Каляда | 10.00 |
| 5. Я. Раковіч | 10.00 |
| 6. В. Сьпічонак | 10.00 |
| 7. І. Мікуліч | 6.00 |
| 8. М. Страпко | 6.00 |
| 9. К. Калоша | 6.00 |
| 10. Ул. Дунец | 6.00 |
| **Разам:** | **$ 91.00** |

**4 Сабрана сп. А. Маркевічам сярод Беларусаў Канады.**

| | |
|---|---|
| 1. М. Ганько | $ 12.00 |
| 2. Клюб „Пагоня" | 10.00 |
| 3. М. Пракопчык | 7.00 |
| 4. М. Гуцько | 6.00 |
| 5. М. Такушэвіч | 6.00 |
| 6. Я. Бурдзь | 6.00 |
| 7. Я. Чорны | 6.00 |
| 8. В. Харэвіч | 6.00 |
| 9. П. Канцавы | 5.00 |
| 10. М. Рачыцкі | 2.00 |
| 11. І. Арэшка | 2.00 |
| **Разам:** | **$ 68.00** |

**5. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Я. Сажыч | $ 50.00 |
| 2. Д-р В. Рамук за клішы | 30.00 |
| 3. Уладыка Мікалай за клішэ | 20.00 |
| 4. С. Татарыновіч | 20.00 |
| 5. В. і М. М. | 20.00 |
| 6. Ад Беларусаў Ангельшчыны (праз сп. Б. Даніловіча) | 13.05 |
| 7. Уладыка Андрэй | 10.00 |
| 8. Праф. Л. Акіншэвіч | 10.00 |
| 9. В. Кажан | 10.00 |
| 10. С. Красоўскі | 10.00 |
| 11. Я. Хрэноўскі (Канада) | 10.00 |
| 12. А. Махноўская | 6.00 |
| 13. Я. Пілярскі (Канада) | 6.00 |
| **Разам:** | **$ 215.05** |
| **Усяго разам:** | **$ 1,036.05** |

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

# У БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

* 19 сьнежня летась Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўлендзе зарганізавала традыцыйны Базар у залі БАПЦарквы. Быў багаты буфэт з напіткамі й ежай. Была й лятарэя, для якой жанчыны пакуплялі рэчы за свае собскія грошы, а таму й даход быў добры. Дзеля таго, што нашыя жанчыны заўсёды даюць на беларускія грамадзкія справы зароблены імі-ж грошы, належыцца ім ад усяго грамадзтва за іхнюю ахвярнасьць, працу й вынаходлівасьць у прыдбаньні грошай асаблівая падзяка.

* 31 сьнежня агульнымі сіламі беларускіх арганізацыяў у Кліўлендзе была зладжаная традыцыйная сустрэча Новага Году. Адмыслова нанятая заля была прыгожа ўдэкараваная аддзелам Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Жаноцкае Згуртаваньне падрыхтавала смачную ежу, а БАЗА пастаралася забясьпечыць урачыстасьць напіткамі й інш. Была разыграная лятарэя, якая прынесла добры прыбытак. Усе ўдзельнікі сустрэлі Новы Год у прыемнай сяброўскай атмасфэры.

* 8 студзеня сёлета, на другі дзень Праваслаўных Калядаў, Царкоўная Рада БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці зарганізавала ялінку для дзяцей.

* 15 студзеня Царкоўная Рада наладзіла прыняцьцё для харыстых з удзячнасьці за іхны прыгожы сьпеў у часе Багаслужбаў. Нажаль, з прычыны кепскае пагоды ня ўсе харыстыя маглі сабрацца.

* 16 студзеня адбыўся сход Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру „Полацак". Старшыня ўправы Цэнтру сп. С. П. адчыніў сход і прывітаў прысутных. У прэзыдыюм сходу былі выбраныя Ул. Дунец — старшыня, Іра Каляда-Сьмірнова — сакратар. Скарбнік інж. К. Калоша зрабіў агульную справаздачу, а акт Рэвізійнае Камісіі прачытаў Янка Каваленка. Пасьля дыскусіі сход даў уступаючаму кіраўніцтву абсалюторыюм з падзякаю. Выбары новага кіраўніцтва былі адкладзеныя да цяплейшага часу, каб можна было сабраць усіх сяброў карпарацыі.

* 22 студзеня ўкраінскія задзіночаныя арганізацыі адзначалі ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Украінскай Народнай Рэспублікі. Ад Беларусаў прысутнічалі на сьвяткаваньні сп. сп. Я. Раковіч і Ул. Дунец.

* 15 лютага адбыўся мітынг міжнацыянальнай арганізацыі Рух Нацыянальнасьцяў, на якім прысутнічаў сэнатар Р. Тафт. Беларускія прадстаўнікі правялі асобную гутарку ў справах, што датычаць беларускіх пытаньняў.

* 19 лютага Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр „Полацак" ладзіў вечарыну Запусты. Быў добры буфэт і прыгожа грала аркестра. Даход быў прызначаны на сплату доўгу карпарацыі „Полацак".

* Згодна мясцовай традыцыі, сьвяткаваньне Дня Праваслаўя ў Кліўлендзе адбываецца кажнага году ў іншай царкве. Сёлета чарод выпаў нашай БАПЦаркве. 27 лютага Ўладыка Андрэй у асысьце мноства духавенства зь іншых цэркваў адслужыў Вячэрню, пасьля якой у нашай царкоўнай залі быў зарганізаваны банкет, на які былі запрошаныя духавенства, Царкоўныя Рады й харыстыя з усіх цэркваў. Госьці ў сваіх прамовах хвалілі нашую царкву й царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага.

* 5 Сакавіка ў парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны Сход. Уступаючы старшыня інж. Я. Бруцкі адчыніў Сход і запрапанаваў выбраць ягоны прэзыдыюм, у які ўвайшлі сп. Ул. Дунец — старшыня і сп-ня Іра Каляда-Сьмірнова — сакратар. Справаздачу зь дзейнасьці зрабіў Я. Бруцкі, а фінансавую — М. Гумен. Акт Рэвізійнае Камісіі прачытаў сп. Я. Карпейка. Пасьля кароткай дыскусіі Сход даў уступаючай Царкоўнай Радзе абсалюторыюм з падзякаю. Новая Царкоўная Рада была выбраная ў наступным складзе: інж. К. Калоша — старшыня, А. Стрэчань — заступнік старшыні, Ул. Дунец — сакратар, М. Гумен — скарбнік, В. Лукашэвіч, К. Каляда і А. Пракаповіч — сябры Рады. За царкоўнага старасту быў выбраны сп. М. Пэнда. У склад Рэвізійнае Камісіі выбраныя: Я. Карпейка, А. Яраховіч і А. Міраеўскі. Прыняцьцё бюджэту на наступны год было адкладзенае дзеля дакладнейшага падрыхтаваньня праекту.

* 11 сакавіка Фэдэрацыя Нямецка-Амэрыканскіх Арганізацыяў ладзіла прыняцьцё ў гонар мэра гораду Ралфа Пэрка. Ад Беларусаў былі запрошаныя Ул. Дунец і Я. Раковіч. Як звычайна на падобных мітрэзах, удалося навязаць кантакты й знаёмства з рознымі нацыянальнымі дзеючамі. У ліку ўсіх іншых дэлегацыяў была афіцыйна прадстаўленая й беларуская дэлегацыя.

*13 сакавіка ў Ўнівэрсытэце Штату ў Кліўлендзе адбылася канфэрэнцыя этнічных групаў, на якой ад Беларусаў прысутнічалі Ул. Дунец і Я. Раковіч. Старшыня Камітэту этнічнай культуры й народнага мастацтва праф. Робэрт Ошляны адчыніў канфэрэнцыю й прадставіў Д-ра Томаса Кампбэла. Ён у сваёй прамове падчыркнуў вялікі ўклад у разбудову Амэрыкі этнічных групаў. Зь вельмі цікавай прамовай выступаў Д-р Карл Бануты. У Кліўлендзе мае адбыцца 11-13 травеня сёлета Нацыянальная Канфэрэнцыя этнічных групаў. Падчас Канфэрэнцыі будуць наладжаныя выстаўкі этнічных групаў. Унівэрсытэт ужо пачаў арганізаваць бібліятэку этнічных групаў і цэнтр з памешканьнямі для нацыянальнасьцяў. Вельмі важна й карысна, што Беларусы прымаюць актыўны ўдзел у этнічным руху.

* 17 сакавіка малады й папулярны рэспубліканскі дзеяч Джордж Войновіч, што займае становішча Акруговага кантралёра й ёсьць прыхільнікам этнічных групаў, наладзіў прыняцьцё, каб бліжэй пазнаёміцца з нацыянальнымі групамі. Ад Беларусаў прысутнічала на прыняцьці 10 чалавек. Вечар прайшоў у вельмі прыемнай атмасфэры. Пасьля смачнага абеду распачаліся танцы пад эўрапейскую аркестру.

* 23 сакавіка рэдактар газэты „Беларус" Д-р Ст. Станкевіч зрабіў вельмі цікавы даклад пра сучаснае палажэньне на бацькаўшчыне й нацыянальны супраціў беларускага народу абнаглелай русыфікацыі для беларускай калёніі Кліўленду. Пасьля дакладу было шмат пытаньняў. У гонар гасьця быў наладжаны пачастунак, дзе была нагода пагутарыць пра розныя актуальныя беларускія справы. Даклад і прыняцьцё ўшанаваў сваёй прысутнасьцяй Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап БАПЦ Андрэй.

**Ул. Д.**

# ДРУГІ САБОР БАПЦ

**адбудзецца 27, 28 і 29 травеня 1972 году**
**ў Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці,**
**9 Рывэр Роўд, Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі.**
**У Саборы прыймуць удзел Япіскапы, духавенства й выбраныя прадстаўнікі ад усіх Парахвіяў БАПЦарквы.**

**У ПАРАДКУ ДНЯ:**

**1. Прыняцьце Статуту БАПЦарквы,**
**2. Выбары Першагерарха,**
**3. Выбары Рады БАПЦарквы.**

**У нядзелю 28 травеня адбудзецца ўрачыстая Сьв. Літургія выбранага Першагерарха ў суслужэньні ўсяго духавенства, на якую запрашаюцца ўсе Беларусы да прыняцьця малітоўнага ўдзелу ў гэтай гістарычнай падзеі нашае БАПЦ.**

**ЗАЎВАГА: Месца Сабору, пададзенае ў папярэднім паведамленьні, зьмененае.**

**Перадсаборная Камісія БАПЦарквы**

# ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ КЛЮБУ "ПАГОНЯ"

У студзені 1967 году ў гор. Таронта быў заснаваны Беларускі Выдавецка-Мастацкі Клюб „Пагоня", мэтай якога было й ёсьць надалей пашырэньне беларускай культуры, як сярод сваіх суродзічаў, так і сярод чужамоўнага сьвету. З часу заснаваньня Клюб „Пагоня" стала разрастаецца і ў сучасны мамэнт налічвае 73 сяброўкі й сябры із шматлікіх краін: Канады, ЗША, Аўстраліі, Ангельшчыны, Бэльгіі, Францыі й Нямеччыны. Трэба надзеяцца, што ў блізкай будучыні „Пагоня" разрасьцецца ўдвая, калі Управа Клюбу давядзе й пераканае нашых шматлікіх суродзічаў, што варта й карысна належыць да згаданага Клюбу, каб гэтым магчы супольна дзеіць у такой важнай і адказнай галіне выдавецка-мастацкай.

Тут трэба з прыемнасьцяй адзначыць, што Клюб прарабіў за мінулыя 5 гадоў шмат карыснай і важнай працы: выпусьціў 6 кружэлак зь беларускай музыкай і песьнямі; выдрукаваў аповесьць у ангельскай мове „Тумороў іс Естэрдэй"; выканаў насьценныя гэрбы й нагрудныя сярэбраныя й залатыя значкі з Пагоняю і г. д. Апрача гэтага, Клюб выдае каталёгі й рассылае па шматлікіх унівэрсытэцкіх і інш. бібліятэках, у выніку чаго прыходзяць замаўленьні на розныя беларускія выданьні й пад. Клюб „Пагоня" браў і бярэ вельмі актыўны ўдзел і на выстаўках (з гэтай мэтаю была выданая ў анг. мове спэцыяльная брашурка пра Беларусь) зь вялікай колькасьцяй экспанатаў пры розных важных нагодах і ў розных мясцовасьцях. У далейшым пляне на будучыню Клюб мае выпусьціць колькі іншых добрых кружэлак, і перадусім, Гісторыю Беларусі ў 2-ух мовах. Тады дойдуць этнаграфічная карта Беларусі (шукаецца кваліфікаваны спэцыялісты-картаграф), 2-ая кніжка „Гараваткі", а таксама беларуска-ангельскі, і ангельска-беларускі слоўнікі.

Як самі бачыце, працы хопіць для ўсіх нас, толькі была-б добрая воля й актыўная падтрымка з боку ўсіх суродзічаў бяз розьніцы сьветапагляду або прыналежнасьці партыйнай. Пры гэтай нагодзе мы заклікаем усю беларускую грамадзкасьць актыўна нас падтрымоўваць у працы калі ня ўступнай складкаю, то, прынамся, шляхам замаўленьня й набыцьця нашых розных выпускаў-выданьняў, якія часткова яшчэ ня зрэалізаваныя й чакаюць на набыўцоў (тут патрэбная дапамога й саміх сяброў Клюбу таксама).

Аб тым, што карысна й выгадна належыць у склад сяброў згаданага Клюбу, пацьвердзіць Вам кажная сяброўка й сябра, а таму ветліва заклікаем усіх нашых суродзічаў уступаць у Клюб „Пагоня" (складка аднаразовая: у Канадзе й ЗША — 50 дал., іншыя краіны — 25 дал.).

Па інфармацыі просім зьвяртацца:

CLUB PAHONIA
524 St. Clarens Ave.
Toronto 4, Ont. Canada

### БЕЛАРУСКІ СЫР І ХРУСТ

Здаецца, гэтулькі сяньняшнія людзі ведаюць розных страваў і прысмакаў, што нічога ўжо няма ані дзіўнага, ані новага. А вось гэта ня так. Калі тут у Вініпэгу „Сытызэнс Каўнсіл оф Манітоба" нядаўна наладзіў выстаўку пад назовам „Віно і сыр", а нашыя Беларусы пад кіраўніцтвам сп. М. Радчанкі прынялі ў ёй удзел, дык на дзіва якраз наш стол прыцягваў найбольш наведвальнікаў, а пытаньням і тлумачэньням ня было канца: „Што гэта?", „як гэта робіцца?", „чаму гэткі смачны?", „я ніколі ня быў на фэрме, але гэты сыр мне падабаецца", „дзе гэткая дзяржава (Беларусь)?" На ўсе пытаньні выразна й сьмела старалася адказаць сп-ня Ф. Такушэвіч.

Вось гэты наш дамашні беларускі сыр, выціснуты ў клінку, з дабаўкай сьмятаны, выглядаў вельмі прыгожа. Дый сам стол быў прыбраны адпаведна й меў нацыянальны выгляд: прывезены яшчэ з бацькаўшчыны вышываны абрус, на сярэдзіне яго сыр, а паабапал поўныя кошыкі хрусту, сухарыкі й іншае. На сьцяне саматканая дзяружка, а на ёй Пагоня.

Стол прыбіралі сп-ні Ф. Такушэвіч і Я. Гуцько. Сваім выглядам сыр прыпамінаў сэрца. А гэта-ж і быў „Валентайн Дэй" — 14 лютага 1972. За шчырую працу — шчырае дзякуй!

**Прысутны**



# ЯК НАБЫЦЬ СКАНФІСКАВАНУЮ БЕЛАРУСКУЮ АНТАЛЁГІЮ ЮНЭСКА

Як мы інфармавалі ў артыкуле „Савецкая канфіскацыя анталёгіі ЮНЭСКА" ў папярэднім нумары нашае газэты, выдадзеная летась у Лёндане міжнароднай Арганізацыяй ЮНЭСКА анталёгія беларускае паэзіі ў перакладзе на ангельскую мову "LIKE WATER, LIKE FIRE" („Як агонь, як вада") і зрыхтаваная ангельскай паэткай Верай Рыч, на дамаганьне дэлегацыі БССР у ЮНЭСКА, адразу пасьля таго, як паступіла ў прадажу, была заблякаваная. Пасьля доўжэйшых торгаў між ЮНЭСКА й беларускай савецкай дэлегацыяй, анталёгія мае выйсьці новым, зьмененым паводля савецкіх патрабаваньняў, выданьнем.

Нязначная колькасьць гэтае кнігі, што ўжо сталася бібліяграфічнай рэдкасьцяй і каштоўным гістарычным экспанатам, была прыдбаная з мэтаю далейшага распаўсюджваньня, Беларускім Выдавецка-Маскацкім Клюбам „Пагоня" ў Таронта яшчэ перад канфіскатай і адтуль можна яе набыць, зьвяртаючыся на адрыс:

PAHONIA Publishers & Arts Club
524 St. Clarens Avenue
Toronto, Ontario, Canada